ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 6 (2304) 11 лютага 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

# ЗРАБІЎШЫ КРОК — НЕЛЬГА СПЫНЯЦЦА

**ІНТЭРВ"Ю СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Станіслава ШУШКЕВІЧА РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

**— У апошні час амаль усё наша жыццё складаецца з адмоўных эмоцый. Калі, на ваш погляд, нас можа чакаць хоць самая малая палёгка і што вы можаце сказаць пра тэндэнцыі развіцця рэспублікі — куды мы, урэшце, ідзём?**

— Адмоўныя эмоцыі не заўсёды абгрунтаваныя, лягчэй за ўсё на нешта скардзіцца і спасылацца на мінулае, а калі зрабіць сур"ёзны аналіз, дык падстаў для адмоўных эмоцый у нас значна менш, чым у іншых краінах СНД. Куды мы ідзем? Мы ж вельмі дакладна заявілі, што наша мэта — стварэнне прававой дзяржавы, і ўсё супрацьстаянне, уся паніка пачынаецца з таго, што, з аднаго боку, *людзі хочуць жыць па закону*, а, з другога, — атрымаць пэўныя гарантыі, не абгрунтаваныя эканамічна. Калі ў нас будуць працаваць законы, калі будзе выконвацца эканамічная праграма (а ў нас ёсць для гэтага падставы), то ўсе сацыяльныя аспекты можна будзе вырашыць станоўча. А калі мы спачатку заявім, што зробім бясплатную адукацыю, бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, дадзім усім вялікія пенсіі і добрыя зарплаты, і з гэтага пачнем, дык адкуль мы возьмем на ўсё сродкі? Гэта, ведаеце, як у беднай сям"і бацька паабяцаў бы ўсім дзецям даць вышэйшую адукацыю, усіх апрануць-абуць і карміць лепш за іншых, не маючы на гэта сродкаў. Ну ніякі разумны бацька не будзе так планаваць. Як бюджэт сям"і складаецца згодна з яе фінансавымі магчымасцямі, так будуецца і бюджэт дзяржавы. Калі ёсць нейкія неадкладныя, надзённыя патрэбы, дык можна і пазычыць, каб аддаць, калі стане лягчэй, але не трэба ставіць перад сабой недасягальных (ва ўсялякім выпадку, адразу) мэтаў. Урад распрацаваў эканамічную праграму. Калі па-людску, па-гаспадарску яе выконваць, не фармулюючы ніякіх ідэалагічных догмаў наконт таго, куды мы ідзем, калі мы будзем нармальна працаваць, то мы выйдзем на добры ўзровень.

**— Вы былі ўдзельнікам "белавежскіх пагадненняў", якія паклалі канец існаванню СССР. Ці адчуваеце вы, адзін са стваральнікаў СНД, сёння адзінства Садружнасці?**

(Заканчэнне на 3-й стар.).



## 25 САКАВІКА — СВЯТАЯ ДАТА ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**1 лютага ў Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя арганізацыйнага камітэта па правядзенню 75-х угодкаў заснавання Беларускай Народнай Рэспублікі. На сустрэчы з журналістамі прысутнічалі прадстаўнікі шматлікіх палітычных партый, грамадскіх арганізацый, установаў, якія ўваходзяць у склад гэтага аргкамітэта.**

**У невялікім уступным слове прэзідэнт згуртавання "Бацькаўшчына" пісьменнік В.Быкаў заклікаў адзначыць угодкі так, каб гэта была масавая з"ява. Бо адраджэнцкая дзяржаўнасць ёсць падмурак сённяшняй суверэннасці.**

**Дэталёвая гаворка завязалася вакол праграмы святкавання, за выкананне якой нясуць адказнасць камісіі аргкамітэта. Яна ўключае шматлікія накірункі дзейнасці: урачыстае пасяджэнне 25 сакавіка, мітынгі, выставы, адкрыццё мемарыяльных дошак, паездкі ў Прагу, а таксама ў Вільню, дзе мае адбыцца адкрыццё помніка братам Луцкевічам, і г.д.**

**Не апошняе месца на прэс-канферэнцыі займала і тэма забеспячэння святочных акцый фінансавымі сродкамі. Як стала вядома, некаторыя камерцыйныя фірмы ўжо ахвяравалі на гэтыя патрэбы пэўныя дpraткі. Тым не менш ёсць сэнс звярнуцца да прадпрымальнікаў Беларусі з асобным заклікам. Аргкамітэт мае намер запрасіць да ўдзелу і ўрад Беларусі.**

**Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А.Трусаў высунуў прапанову, каб унеслі складкі палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, а таксама грамадзяне. Варта было б, на яго ж думку, распрацаваць і надрукаваць у газетах урок гісторыі па тэме БНР, выдаць паштоўку і г.д.**

*(Зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь у сувязі з надыходзячымі ўгодкамі чытайце на 4-й стар.).*

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# "ДЗІЎНЫМ ХАРАСТВОМ ГАРЭЛА ЯГО ДУША..."

Ёсць скрыты драматызм і таемная містыка ў гістарычным быцці народа. Пра гэтую драму амаль адначасова думалі і пісалі Максім Гарэцкі ў аповесці "Дзве душы" і паэт Ігнат Канчэўскі ў філасофскім эсэ "Адвечным шляхам" (1921). Не выпадкова апошні выбраў сабе псеўданім Абдзіраловіч — па прозвішчу героя аповесці Гарэцкага. Дарэчы, сам Канчэўскі, як яго ны літаратурны правобраз Абдзіраловіч, быў чалавек "на мяжы дзвюх культур", толькі не польскай і беларускай, як у выпадку з літаратурным персанажам М.Гарэцкага, а рускай і беларускай. Розніца паміж імі, аднак, істотная: літаратурны персанаж Ігнат Абдзіраловіч так і не пераадолеў да канца гэтую супярэчлівасць сваёй душы, у той час, калі Ігнат Канчэўскі належаў да тых моцных людзей, пра якіх кажуць, што душа іх, спачатку раздвоеная, а затым "склеенная" і загартаваная жыццёвымі нягодамі, набыла тую трываласць і цэласнасць, якія немагчымыя без унутранай драмы і свядомага выбару свайго ўласнага лёсу.

На арыгінальнасць светапогляду І.Канчэўскага бадай ці не ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве звярнуў увагу Уладзімір Калеснік у кнізе "Ветразі Адысея" (1977). Нарадзіўся Ігнат Канчэўскі ў сям'і віленскага чыноўніка, сакратара акруговага вайсковага суда, які не толькі не стрымліваў вольналюбівую натуру сына Ігната, але і пазней, прыняўшы сан святара, не перашкодзіў сваму другому сыну Арсеню стаць камуністам і сябрам ЦК КПЗБ. У 1913 годзе Ігнат закончыў Віленскае рэальнае вучылішча і паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Знаёмства з беларускім культурна-нацыянальным рухам і традыцыямі рускай культуры абудзіла ў ім талент пісьменніка, і неўзабаве ён перайшоў на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта.

Пра далейшы лёс здольнага юнака Уладзімір Калеснік піша: "Вайна замяніла універсітэцкую аўдыторыю на казарму, потым на клас у школе прапаршчыкаў. Прайшоў Ігнат Канчэўскі і франтавую школу недзе ў Румыніі. Лютаўская рэвалюцыя застала яго ў войску на Украіне". Тады ж ён падаўся на Дон, там ажаніўся з сяброўкай школьных гадоў, дачкой казацкага афіцэра Людмілай Папяковай. Пасля абвяшчэння БССР І.Канчэўскі пераехаў у Мінск, працаваў інструктарам Саўнаргаса, уключыўся ў беларускі культурна-асветніцкі рух. Тады ж у халодным і галодным Мінску нажыў ён сваю трагічную хваробу — туберкулёз лёгкіх. Пасля ўтварэння Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі (праіснавала з лютага па жнівень 1919 года) Канчэўскі разам з жонкаю і дачкой пераехаў у сталіцу новай дзяржавы Вільню. Там ён працаваў у віленскім Саюзе кааператараў, шмат сіл аддаваў Беларускаму навуковаму таварыству ў Вільні, друкаваў вершы і артыкулы ў газетах "Наш сцяг", "Наша думка", "Беларускія ведамасці", "Наша будучыня" і мабыць яшчэ і ў іншых перыядычных выданнях пад псеўданімамі Ігнат Абдзіраловіч, Ганна Галубянка, крыптанімамі І.А., І.К.

Вясной 1923 года газета "Новае жыццё" змясціла жалобнае паведамленне: "21 красавіка памёр пасля доўгай і цяжкай хваробы супрацоўнік "Новага жыцця" і кааператар Ігнат Канчэўскі". А 27 красавіка гэтая ж газета надрукавала некралог "Памяці Ігната Канчэўскага", падпісаны крыптанімам А.Л. (Антон Луцкевіч). Аўтар пісаў пра пакутніка беларускай ідэі ўзнёсла, з вялікай літары, выкарыстаўшы скрытую цытату з верша Максіма Багдановіча ("Не блішчыць у час змяркання..."): "Быццам дыямент цудоўны, дзіўным харастром гарэла Яго душа сярод жыццёвага бруду, маны, крывадушнасці.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАСЯДЖЭННЕ ПАРЛАМЕНТА*

## КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ "АМНІСЦІРАВАНА"

**На чарговым пасяджэнні парламента прынята рашэнне аб адмене пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 25 жніўня 1991 года "Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ—КПСС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь". Цяпер у нас стала дзве партыі: КПБ і ПКБ. Пакуль яшчэ невядома, аб'ядноюцца яны ці кожная пойдзе сваім шляхам. Праўда, пачынаць ім трэба будзе з нуля, бо ўся маёмасць КПБ—КПСС, нацыяналізаваная пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі ад 10 снежня 1991 года, так і застанецца дзяржаве.**

## ДАГАВОРЫ РАТЫФІКАВАНЫ

**На сесіі абмяркоўваліся пытанні аб магчымасці ратыфікацыі міжнародных дагавораў аб распаўсюджванні ядзерных узбраенняў, узаемадзеянні з Расіяй у ваеннай галіне, знаходжанні стратэгічных сіл на Беларусі і іншыя. Дагаворы ратыфікаваны. Міністр замежных спраў Пётр Краўчанка ацэньваў ратыфікацыю ў глабальным маштабе. Парламент, сказаў ён, праявіў высокую ступень адказнасці перад сваім народам і народамі свету. Ён пацвердзіў цвёрдае імкненне да нейтральнасці.**

*ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ*

## ПЕРШАЯ ГАДАВІНА

**З нагоды першай гадавіны амерыканскай дыпламатычнай прысутнасці ў РБ у Мінску адбылася прэс-канферэнцыя. На ёй выступіў пасол ЗША Дэвід Х. Суорц.**

**Сярод падзей, якія найбольш запомніліся, пан Суорц вызначыў наведванне разам з калегамі-дыпламатамі з іншых пасольстваў Барысава, дзе яны назіралі за знішчэннем першага танка на Беларусі ў адпаведнасці з Дагаворам па звычайных узбраеннях у Еўропе. Ён заявіў: гэты працэс узмацняе бяспеку кожнага жыхара нашай рэспублікі, бо ў Еўропе знішчаюцца і амерыканскія танкі.**

**Пасол выказаў шчырую надзею, што парламент Беларусі як мага хутчэй, магчыма, ужо на гэтым тыдні, ратыфікуе рашэнне нашага ўрада аб далучэнні да Дагавора СНУ і Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.**

**Дэвід Суорц адзначыў, што ЗША падпісалі ўжо чатыры міждзяржаўныя пагадненні з Беларуссю, якія накіраваны на змяншэнне рызыкі выпадковасцей і пагрозы, якая зыходзіць ад ядзернай і іншай зброі масавага знішчэння.**

**Хутка будуць падпісаны таксама пагадненні, якія забяспечаць супрацоўніцтва ў галіне гандлю і інвестыцый.**

**Пан Суорц зауважыў, што ў цэлым Амерыка хоча бачыць Беларусь эканамічна моцнай і незалежнай дзяржавай, дзе насельніцтва было б задаволена жыццём.**

*З КАМПЕТЭНТНЫХ КРЫНІЦ*

## ПРАДАЁМ ЗБРОЮ

**Сёння Беларусь пастаўляе за мяжу танкі, самалёты, стралковую зброю, паведаміў першы намеснік міністра абароны рэспублікі Аляксандр Тушынскі. Па яго словах, найдаўня партыя танкаў была закуплена Італіяй. Вядуцца перагаворы аб экспартных пастаўках спецыяльных ваенных камп'ютэраў, аптычных прыцэлаў і сістэм навядзення ўласнай вытворчасці. Спецыялісты прапрацоўваюць магчымасць вырабу сваёй стралковай зброі тыпу ізраільскага "Узі". У беларускіх ваенных навучальных установах зноў будуць праходзіць падрыхтоўку замежныя грамадзяне, упэўнены А. Тушынскі. Падрыхтаваны праект пагаднення аб гэтым з Індыяй.**

**Ён прызнаў, што самастойна, хутка і разумна перапрафіліраваць шматлікія прадпрыемствы абароннай прамысловасці Беларусі пакуль не па сілах. Таму ўрад і Міністэрства абароны стараюцца праводзіць канверсію асцярожна.**

*ТАТАЛЬНАЕ РАСКРАДАННЕ*

## РУКА РУКУ МЫЕ

**Былы дырэктар Мінскага фарфоравага завода Вайцяховіч за 1 мільён 167 тысяч рублёў набыў ва ўласнасць фактычна ўвесь пасёлак Седча ў Пухавіцкім раёне. А гэта — 20 шматкватэрных жылых дамоў, 3 магазіны, лазня, клуб, дзіцячы сад, усе вытворчыя памяшканні торфапрадпрыемства "16 чырвоных партызан" разам з абсталяваннем, 16 трактароў, 2 грузавыя аўтамабілі, 2 цеплавозы ды 16 вагонаў.**

**Гэты мільён з гакам — усяго 2,5—3 тысячы долараў. Вядома ж, набыць цэлы маёнтак за такія грашы без моцнай рукі ў верхніх эшалонах улады немагчыма. А з благаславення яе па ўсёй Беларусі раскрадаецца, ці то прадаецца, гаворачы прыстойна, за бесцань увішным і сквапным дзялкам народнае дабро.**

*ВУЧАЦЦА ФЕРМЕРЫ*



**Падрыхтоўку кваліфікаваных спецыялістаў для фермерскіх гаспадарак пачаў Беларускі рэспубліканскі вучэбны цэнтр Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, размешчаны пад Мінскам. Тут займаюцца людзі розных спецыяльнасцей, якія жадаюць атрымаць сельскагаспадарчыя навыкі. Пасля заканчэння вучобы ім будзе прысвойвацца кваліфікацыя "арганізатар сельскай фермерскай гаспадаркі".**

**НА ЗДЫМКУ: на практычных занятках у цэнтры.**

*ПАДВЯДЗЁМ ВЫНІКІ*

## СУМЕСНАЕ ПАТРУЛЯВАННЕ

**У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў N 627 ад 15 кастрычніка 1992 года, у Мінску, абласных цэнтрах, гарадах і пасёлках гарадскога тыпу, дзе дыслацыруюцца воінскія часці, арганізавана сумеснае патруляванне прадстаўнікоў органаў унутраных спраў і веннаслужачых.**

**Як паведамілі ў Міністэрстве абароны рэспублікі, дзякуючы прынятым мерам, сумеснымі патрулямі затрыманы і вернуты да месца службы больш за 500 ваеннаслужачых, якія самавольна пакінулі часці. Цяпер такое патруляванне ажыццяўляецца ў 34 населеных пунктах Беларусі. У гарадах, дзе ёсць штатныя ваенныя камендатуры, для гэтай меры выкарыстоўваюцца спецыяльна сфарміраваныя падраздзяленні.**

*"Пакаяцца (Беларусь — перад эміграцыяй. — Рэд.) павінен, калі вінаваты, сам чалавек, а не радзіма, не партыя, не якая-небудзь іншая арганізацыя. Зло рабіў у кожным канкрэтным выпадку канкрэтны чалавек. Калі на прэс-канферэнцыі прадстаўнік беларускай эміграцыі ў Канадзе Палескі сказаў пра неабходнасць пакаяння, то я проста абурыўся самой пастаноўкай такога пытання, таму што не разумею, хто і перад кім павінен каяцца. Можа я, якога дзіцем звезлі ў Нямеччыну, кінулі ў фашысцкі лагер, я, што стаяў у чарзе дзяцей, якіх выбіраў, каб узняць на штык і кінуць у калодзеж, паліцай-нелюдзь, калі палілі маю вёску? Я мушу каяцца? Перад тым паліцаем? А можа, гэта ён перада мною павінен пакаяцца? Некаторыя прыстасаванцы кажуць, што калі мы павядзем сябе разумна, пакаемся, то багатая эміграцыя нам дапаможа. Але я не хачу, ды і мае земляк, што пакутуюць ад Чарнобыля і іншых бед, не захочуць дапамогі ад таго паліцая, што нажыў багацце ў час вайны, калі рабаваў сваіх аднавяскоўцаў. Я ведаю, што ёсць сумленныя, ні ў чым не вінаватыя людзі з нашай эміграцыі, і з імі нам трэба мець справу.*

*Іншая справа, што паліцаям сапраўды некаторым трэба. Тым калабарантам з нячыстым сумленнем, якія дасюль яшчэ хаваюць праўду ад сваіх сыноў і ўнукаў. Няхай яны не ўнясуць з сабой гэты грэх у іншы свет. У сваю чаргу, многія нашы маладыя людзі, што цяпер гэтак актыўна працуюць на адраджэнне, не ведаючы, што іх бацькі і дзяды таксама павінны каяцца, бо, працуючы ў НКУС, забівалі, расстрэльвалі сваіх суайчыннікаў. Гэта вялікая маральная праблема".*

*( З інтэр"ю Барыса САЧАНКІ карэспандэнту"Звязды").*

*НАВАСЕЛЛІ*

## ДАМЫ ДЛЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

**Год назад у Мар'інай Горцы быў закладзены ваенны гарадок. За такі кароткі тэрмін уведзены 12 маналітных жылых дамоў на 780 кватэр, дзіцячы сад з басейнам, школа, паліклініка на 150 наведванняў у змену, гандлёва-бытавы цэнтр з камбінатам бытавога абслугоўвання, поштай, тэлеграфам, магазінам, кінатэатрам. Усе фінансавыя расходы ўзяў на сябе нямецкі бок. Будаўніцтва ж вяла фірма "Хака" з Фінляндыі і Санкт-Пецярбургскае аб'яднанне "Маналітбуд", а таксама спецыялісты з ФРГ, Кітая, Польшчы і некаторых іншых краін.**

**Частка ордэраў на засяленне кватэр ужо выдадзена. Іх атрымліваюць не толькі вайскоўцы, якія пакідаюць Германію, але і мясцовыя ваеннаслужачыя. Не забыты і тыя, хто пайшоў на заслужаны адпачынак.**

*КОНКУРСЫ*

## ПОМНІКІ СЛАВУТЫМ СУАЙЧЫННІКАМ

**Адной з найцікавейшых старонак у культурным жыцці рэспублікі, як паведамілі ў Міністэрстве культуры, абяцаюць быць конкурсы на праектаванне новых помнікаў, якія ўпрыгожаць нашы гарады і вёскі. Паводле папярэдніх даных, на гаоўнай плошчы Смаргоні будзе ўстаноўлены бюст Францішка Багушэвіча, у Гродне паявяцца помнікі Кастусю Каліноўскаму і Максіму Багдановічу, у Полацку — Сімяону Полацкаму, у Крычаве — кіраўніку сялянскага паўстання ў 1743—1744 гадах Васілю Вашчылу. Акрамя таго, будзе аб'яўлены конкурс на праектаванне помніка партызанскаму руху на Палессі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.**

*ПРЭСТЫЖНЫ ЗАКАЗ*

## НАША "ЭЛІТА" ДЛЯ "ФОРДА" І "МЕРСЕДЭСА"

**Вядомае не толькі ў рэспубліцы рэкламнае агенцтва Сашы Варламава, якое займаецца экспартам фотамадэляў і манекеншчыц на рынкі Еўропы і ЗША, нядаўна атрымала нечаканы і вельмі прэстыжны заказ. Нямецкая аўтамабільная фірма "Мерседэс", амерыканская — "Форд" і іншыя "монстры" сусветнага бізнесу даручылі агенцтву адабраць і абучыць дзяўчат для работы прадстаўнікамі, сакратарамі, рэферэнтамі і рэкламнымі мадэлямі. У сувязі з гэтым Саша Варламаў абвясціў набор для навучання ў так званай "элітнай групе".**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЕЛАРУСКІ ўрад правёў індэксацыю ўкладаў насельніцтва ў Ашчадным банку ў 2 разы. Гэта акцыя, а таксама павелічэнне працэнтаў па ўкладах з 1 студзеня 1993 года да 50 працэнтаў, відаць, зроблена, каб вярнуць давер кліентаў да Ашчаднага банка. За студзень-кастрычнік 1992 года ў параўнанні з такім жа перыядам 1991 года ўклады насельніцтва зменшыліся ў 3,8 раза.

НА 61 ПРАЦЭНТ павялічылася колькасць учыненых злачынстваў у арміі і на 18,8 працэнта агульная іх лічба за 1992 год — 96 637. Каля 70 працэнтаў раскрытых цяжкіх злачынстваў і 80 працэнтаў забойстваў учынена ў стане алкагольнага ап'янення. За мінулы год не выяўлены органамі міліцыі 38 019 злачынцаў, 67 забойцаў.

НА ТЭРЫТОРЫІ Польшчы дзейнічаюць 23 злачынныя групы, якія складаюцца з грамадзян Беларусі. За мяжу ад нас рэгулярна выязджала больш за 200 чалавек, якія займаюцца ў суседняй дзяржаве рэкетам: рабуюць і абіраюць сваіх жа суграмадзян, што едуць у Польшчу па лініі "камерцыйнага турызму". Цяпер на тэрыторыі Польшчы пад арыштам знаходзіцца каля 100 грамадзян Беларусі.

У МАЛАДЗЕЧНЕ адкрыўся абласны драматычны тэатр. Ён узнік на аснове народнага: трэцяя частка яго трупы — непрафесійныя самадзейныя акцёры. На адкрыцці тэатра гледачы ўбачылі дзве прэм'еры — спектаклі паводле паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа і п'есы "Прымакі" Янкі Купалы.

З СЯРЭДЗІНЫ студзеня ў Мінску штодзённа хварэе на грып і вострыя рэспіраторныя захворванні 26—27 тысяч чалавек. Павышаны ўзровень захворванняў зарэгістраваны ў Брэсце, Баранавічах, Віцебску, Магілёве. Як паведамляе Міністэрства аховы здароўя Беларусі, сітуацыя з грыпам пагаршаецца. Вызначаны 18 кантрольных гарадоў, у якіх вядзецца назіранне за развіццём падзей.

З 1 ЛЮТАГА падаражалі паштовыя паслугі. За простае пісьмо, пасланае з Беларусі ў блізкае замежжа — краіны СНД, трэба ўжо заплаціць 15 рублёў, заказное каштуе 25. Адпраўка кілаграмовых бандэроляў і пасылак цяпер абыдзецца не 8 рублёў, а ўжо 204 рублі.

# ЗРАБІЎШЫ КРОК – НЕЛЬГА СПЫНЯЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

– Перш за ўсё вы памыляецеся. Канец існаванню СССР паклала не Белавежа. СССР развалiўся да гэтага, і разваліўся ён пад кіраўніцтвам былога прэзідэнта Гарбачова, які больш чапляўся за ўласную пасаду, чым займаўся дзяржаўнымі справамі. Усё рабілася, каб захаваць прэзідэнцтва любой цаной. Ён не пайшоў на стварэнне канфедэрацыі, таму што ў канфедэрацыі прэзідэнцтва не бывае. Гарбачову была патрэбна адзіная і непадзельная, а кавалкі ўжо адваліліся, і тэндэнцыя суверэнізацыі ўжо існавала. Людзі адчулі, што можна не так ужо і дрэнна існаваць самастойна. Таму я падкрэсліваю: СССР разваліўся да Віскулёў, але трэба было мець мужнасць заявіць аб гэтым, спыніць хаатычны развал і пачаць працэс інтэграцыі. Я не бачыў тады і не бачу на сённяшні дзень іншага не крываваго шляху, заўважце, не крывавага, а годнага і прававога, які б даў магчымасць больш шчыльна аб'яднаць краіны, якія ўвайшлі ў СНД. І мне здаецца, што мы зрабілі надзённую справу. Між іншым, і парламенты падтрымалі нас, так што ўсё было зроблена на падставах законаў і канстытуцыі. Я разумею, што і ў СНД ёсць слабыя месцы, але без Садружнасці іх было б значна больш.

**— Зусім нядаўна вы вярнуліся з Кітая, бываеце і ў іншых краінах далёкага і блізкага замежжа. Вядома ж, гледзячы на жыццё там, робіце нейкія высновы і набываеце пэўны вопыт, які можа прыдацца і ў нашым жыцці. Аднак не трэба забываць мудрую беларускую прымаўку: "Людзей слухай, а свой розум май". Які вы бачыце ўласны шлях Беларусі?**

— Перш за ўсё, я катэгарычна супраць таго, каб механічна ісці па нечым шляху. Вы ўжо самі сказалі: свой розум трэба мець, але вывучаць працэсы, якія ідуць у розных краінах, асабліва ў тых, якія дасягнулі пэўных поспехаў і пры розных падыходах да ўласнасці, і з рознай дзяржаўнай структурай — трэба. Я там добра зразумеў, што пра Кітай мы маем зусім няправільнае ўяўленне. А што да кіруючай ролі камуністычнай партыі, дык там ужо даўно няма нічога падобнага на тое, што было ў нас. І інтэлектуалы найвышэйшага ўзроўню, якіх мы там сустрэлі, належалі менавіта да кіраўніцтва камуністычнай партыі Кітая. І нельга механічна пераносіць на Кітай і, дарэчы, на многія рэспублікі СНД наша разуменне правоў чалавека, таму што іх фармальнае наданне спараджае злоўжыванне гэтымі правамі і стварае небяспеку для вялікіх груп насельніцтва. У пазнавальным сэнсе паездка ў Кітай была вельмі выніковай, але я нікога не заклікаю ісці шляхам Кітая. Проста мы павінны ўлічыць гэты вопыт.

Які беларускі шлях? Нам трэба выкарыстаць тое, што заўсёды было ўласціва беларусам, — любоў да зямлі, імкненне добра гаспадарыць на ёй, разважлівасць, памяркоўнасць. Беларусы заўсёды добра думалі, перш чым прыняць рашэнне, не лезлі на ражон і не хапаліся за першую ж прапанову. Выходзячы з гэтых рысаў нацыянальнага характару і трэба шукаць уласныя шляхі развіцця. Дарэчы, прыгадайце, як у мінулым годзе ўсе раптам запанікавалі — ах, бульбы сабралі ў два разы меней, чым заўсёды, голад пачнецца, ці закупляць у некага прыйдзецца. Але мы маленькія кавалачкі зямлі раздалі людзям — і не стала гэтай праблемы, наваг больш танная бульба ў Мінску, калі параўнаць з іншымі рэгіёнамі СНД. Мы з жонкай, і ўсе мае універсітэцкія калегі, таксама бульбу пасадзілі. Прыемна было і адчуваць на зямлі, і нейкі прыбытак для дому атрымаць. Дарэчы, наш урад распрацаваў сваю эканамічную праграму, але зараз мы бачым вялікае супрацьстаянне ёй з боку так званых "навукоўцаў", якія некалі "тапілі" Жэбрака, адмаўлялі Вільямса, праследавалі вейсманістаў-марганістаў і ўзносілі Лысенку. З усёй праграмы яны вырываюць адну якую-небудзь пазіцыю — напрыклад, уласнасць на зямлю — і ўтвараюць страшэнны гвалт, не разумеючы ўсёй праблемы. А можа, гэта робіцца і спецыяльна, бо раней іх добра "карміла" ідэалагічная падтрымка і ніякімі навукоўцамі на самай справе яны не з"яўляюцца. І нельга дапусціць, каб яны дззарыентавалі народ. Мне здаецца, што цвярозы розум у рэшце рэшт пераможа. Многае хацелася б зрабіць да вясны, да сяўбы, але баюся, што супрацьстаянне ў парламенце такое моцнае, што тэрміны будуць значна даўжэйшымі.

**— Ёсць інтарэсы дзяржаўныя і інтарэсы простых людзей, якія ў гэтых дзяржавах жывуць. У апошнія гады яны ўсё менш і менш супадаюць. Але ж сапраўдны прагрэс і згода магчымы толькі тады, калі імкненні грамадзян супадуць з інтарэсамі палітыкаў. Як вы бачыце гэта? Ці ёсць сёння шляхі дасягнення такога адзінства і якія яны?**

— Перш за ўсё я хацеў бы сказаць, што простых людзей у дзяржаве большасць, пераважная большасць тых, хто жыве на сярэднім альбо ніжэй сярэдняга ўзроўні. І ўводзіць іх у зман — гэта самазабойства для ўсіх тых, хто хоча застацца палітыкамі.

**— Што вы маеце на ўвазе пад словамі "ўводзіць у зман"?**

— Што б вы ні гаварылі людзям на сесіі, па тэлебачанні і ў інтэрв"ю, калі ўзровень жыцця нашых выбаршчыкаў пагаршаецца — значыць, вы іх уводзіце ў зман! Хопіць нам розных шматлікіх паказчыкаў, ёсць толькі адзін сапраўдны крытэрый нашай рэчаіснасці — жыццё не павінна пагаршацца. Але ж калі мы хочам пабудаваць новае грамадства, новае жыццё, змяніць падмурак пад домам, не разбураючы пры гэтым сам дом, мы што, жыць у гэтым доме застанемся? Канешне, не. І трэба пераж
ыць цяжкі перыяд, калі выносіцца з дому ўся мэбля, мяняецца падлога... Але глядзіце, што адбываецца: мы пачалі рэканструкцыю, а некаторыя дэпутаты зараз гавораць: не трэба, давайце спынімся, не трэба ніякіх новых формаў. Такія людзі мала ўсведамляюць, што адбываецца, у іх не хапае адукацыі, каб зразумець, што, зрабіўшы паўкрока над цяснінай, нельга спыняцца, трэба пераставіць і другую нагу, а то звалішся ўніз.

**— Некалі беларусаў падзялялі і разлучалі войны і рэвалюцыі. Гэта стала трагедыяй для многіх. Сёння людзей раз"ядноўваюць палітыкі. Ці ўпэўнены вы, што гэтае раз"яднанне ў рэшце рэшт прынясе грамадству карысць?**

— Скажыце, калі ласка, з кім у межах блізкага замежжа сёння раз"яднаны беларусы? Раней газеты ніколі не пісалі пра беларусаў у Казахстане, і яны там сваёй суполкі не стварылі. Раней не існавала пытання аб беларусах ва Узбекістане — яны там размыліся і ў большасці страцілі і мову, і традыцыі. Цяпер яны ажылі і адчулі сябе беларусамі. Я быў на сходзе беларусаў блізкага замежжа, і самы прыгожы значок, які мне там падарылі, — значок казахскай суполкі беларусаў. Ён вельмі цікавы. Земляки змясцілі Касцюшку на беларускі сцяг. Гэта спрэчна, але нельга не паважаць іх імкненне паказаць, што яны — з гэтай зямлі, яны разам з тымі, хто жыў на ёй, нават з такімі даўнімі гістарычнымі асобамі. У апошнія гады ажылі беларускія суполкі ў Літве і Латвіі.

Прынцыпы, якімі мы кіруемся, чалавечныя. І заўважце, першае, што мы аб'явілі ў Віскулях: няма межаў для грамадзян і інфармацыі. Ну а для разумнага гаспадарання мы таксама будзем рабіць як мага менш граніц. Яшчэ адзін крок да гэтага — стварэнне міждзяржаўнага банка і ўтварэнне сапраўднай рублёвай зоны, дзе замест двухбаковага кліпрынгу ўсё ж такі рубль стане сапраўднай валютай. Гэта сапраўды важныя крокі да сумлення эканамічнага ўзаемадзеяння. І я пераканаы, што СНД не раз"ядна́ў нас, а наадварот, даў магчымасць людзям ўсвядоміць, што ў іх ёсць Радзіма, адчуць сябе беларусамі, а не людзьмі з Паўночна-Заходняга краю.

**— У выніку распаду СССР мы маем сёння так званае "блізкае замежжа" — былыя рэспублікі Саюза, дзе жывуць сотні тысяч беларусаў. Праблемы нашых суайчыннікаў у новаствораных посткамуністычных дзяржавах складаныя, нават балючыя. І беларусы блізкага замежжа патрабуюць, каб іх абараніла Бацькаўшчына. У прыватнасці, яны хацелі б мець двайное грамадзянства. Ці могуць яны спадзявацца на апеку Бацькаўшчыны?**

—Тое, что Бацькаўшчына будзе пра іх клапаціцца ў духоўным сэнсе, у культурным, у сэнсе захавання традыцый — гэта абавязкова. А вось цяпер давайце пагаворым пра двайное грамадзянства. Я б прагаласаваў за яго, але калі б гэта адбылося, мы проста размылі б нашу Бацькаўшчыну і яе б не стала. Таму што двайное грамадзянства можа быць толькі ў суразмерных краінах. Вось каб мы гаварылі канкрэтна пра Беларусь і Літву — я думаю, што гэта магло б атрымацца, Беларусь і Латвію — таксама магло б быць, а вось након Беларусі і Украіны — ужо больш складана, таксама ж, калі ўзяць Беларусь і Расію. Мы не можам дазволіць сабе так моцна асіміляваца. Але тое, што ў нашым заканадаўстве адсутнічае двайное грамадзянства, яшчэ не з"яўляецца стопрацэнтнай заслонай на гэтым шляху. Заўсёды можна знайсці выйсце. Напрыклад, калі ўзнікнуць праблемы беларусаў, якія жывуць у Літве, яны могуць узняць гэтае пытанне, і ў межах двухбаковага пагаднення мы яго павінны вырашыць. Дарэчы, што дрэннага, калі грамадзянін Расіі, беларус па паходжанню, будзе прыхільнікам родных беларускіх традыцый, стане ўдзельнікам беларускай суполкі і будзе прыязджаць сюды як наш госць. А двайное грамадзянства пакуль што не адпавядае дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь; трэба ад гэтага пакуль што ўстрымацца і, магчыма, на даволі доўгі тэрмін. З цягам часу напэўна адбудуцца змены, бо мы пакуль што толькі ўмоўна існуем як нацыя. Як мала людзей на Беларусі гавораць на роднай мове, як мала перадач. З тых перыядычных выданняў, якія атрымліваюць датацыю Савета Міністраў, на 92 рускамоўныя экземпляры прыпадае толькі 8 беларускамоўных. І большасць журналістаў па-руску гавораць і пішуць лепш, чым па-беларуску. Так нас перакавалі... Нават у Вярхоўным Савеце дэпутат два-тры разы выступіць па-беларуску, а потым стамляецца і гаворыць па-руску, забываючы пра Закон аб мовах.

**— У ліпені 1993 года павінен адбыцца форум беларусаў свету. Што вы чакаеце ад яго як беларус і як дзяржаўны дзеяч — Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі? Хто павінен прыняць удзел у ім: толькі нацыянальна свядомыя суайчыннікі, якія гавораць па-беларуску, ці таксама і беларусы-інтэрнацыяналісты, што не ведаюць сваёй мовы, прытрымліваюцца іншых палітычных поглядаў, але таксама любяць гэтую зямлю і гатовы паслужыць Беларусі? Якая, на ваш погляд, павінна быць мэта форуму?**

— Я думаю, што ў форуме могуць прыняць удзел усе беларусы, якія любяць Бацькаўшчыну. Калі мы ўжо за сапраўдны плюралізм і за свабоду сумлення, давайце шчыра скажам: не можа быць ніякіх абмежаванняў для ўдзелу ў гэтым форуме, падкрэсліваю, ніякіх. І калі чалавек не ведае беларускай мовы, а можа, нават і рускай, але лічыць сябе беларусам, нам трэба стварыць усе ўмовы для таго, каб ён сябе тут добра адчуваў, і калі рабочай мовай будзе беларуская, мы абавязкова паклапоцімся, каб быў сінхронны пераклад на іншыя мовы.

Ад форуму я чакаю новых знаходак, таму што з лістоў, якія прыходзяць да мяне і з Аўстраліі, і з Амерыкі, Канады, Францыі і іншых краін, я ведаю, што за мяжой ёсць вельмі многа людзей, якія лічаць сябе беларусамі і вельмі многа ведаюць пра Беларусь. У іх ёсць іншы пункт гледжання на некаторыя аспекты нашай гісторыі, таму што ёсць магчымасць карыстацца пэўнымі крыніцамі, пра якія мы тут і не ведаем. Таму я чакаю ад гэтага форуму больш глыбокага разумення, хто такія беларусы, адкуль мы ўзяліся, што нас чакае і якую нам праводзіць палітыку, каб у рэшце рэшт перамагла беларуская талерантнасць, беларуская гаспадарлівасць, беларуская добразычлівасць.

**— На што вы абапіраецеся ў цяжкія гадзіны жыцця?**

— Ведаеце, у нас у Вярхоўным Савеце зараз вельмі складаная сітуацыя. Мы разбіраем пытанні, якія на доўгі час вызначаць лёс дзяржавы і нацыі. Так што абапірацца трэба на цвярозы розум, на сумленне людзей... А ў пасудзённым жыцці — на сям"ю, сяброў...

**— Дзякую за інтэрв"ю, Станіслаў Станіслававіч, і хай такой апорай для вас стане ўся Беларусь...**

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**



## У ЗЯМЛІ ЯГО КАРАНІ

**З пункту гледжання многіх, гамяльчанін Аркадзь Набокін заўсёды быў дзіваком. Калі быў настаўнікам фізікі і матэматыкі, ад свайго хутара Пабужка да школы ў Барталамееўцы (а гэта дзесяць кіламетраў) ў любое надвор'е хадзіў босым. Спачатку, убачыўшы такога падарожніка, вадзіцелі прытармажвалі, прапаноўваючы падвезці. Пазней сталі праязджаць міма, ветліва памахаўшы рукой. Ведалі: адмовіцца, не прамяняе хаду на паездку нават у вельмі ўтульнай кабіне.**

**Цяпер абязлюдзелі родныя мясціны Набокіна. Зона жорсткага кантролю! Ля ўезда ў Пабужжа — міліцэйскі пост. А з жыхароў — толькі Аркадзь Паўлавіч... Жыве адзін. Каб не сумна было без работы, завёў спачатку пару кароў, потым — яшчэ пяць. Здаваў малако ў саўгас, але пасля чарнобыльскай бяды, дазнаўшыся, што выліваюць яго ў лесе, рабіць гэта перастаў. Цяпер поіць ім цялят.**

**У "фермера" Набокіна ўжо семнаццаць галоў буйной рагатай жывёлы, якая ў Аркадзя Паўлавіча сытая, дагледжаная, таму што ўмовы іх утрымання максімальна набліжаны да прыродных. Сена гаспадар нарыхтоўвае ўдосталь, не прытрымліваючыся ніякіх нарматываў. Зімой поіць кароў з палонкі, якую прабівае ў рачулцы.**

**З "цывілізаваным светам", гэта значыць з райцэнтрам, сувязі Аркадзь Паўлавіч практычна не падтрымлівае. Няма для яго ў тым неабходнасці: малочныя прадукты свае, солі назапасіў, замест цукру — салодкія сушаныя грушы. І па хлеб раз у месяц выходзіць да міліцэйскага паста. Спыняць хлопцы аўталаўку, стары атаварыцца — і зноў на месяц у свае ўкрыццё.**

**У гэтым годзе Аркадзю Паўлавічу спаўняецца 93 гады. Ён яшчэ дужы і поўны аптымізму. Пачаў вось будаваць новы хлеў, дзе мяркуе механізаваць падачу сена...**

**Ці не ад роднай зямлі, у якую так глыбока ўрос каранямі, чэрпае сілу і мужнасць гэты забыты светам чалавек! І жыве ж, а не марнее нават тады, калі жыць, здаецца, амаль немагчыма.**

С. ХАЛАДЗІЛІН.

НА ЗДЫМКУ: Аркадзь НАБОКІН на сваім хутары.

*ПЕРАД ФОРУМАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

# ЗАПРАШАЕМ ДА ДЫЯЛОГА

Выступаючы на першым сходзе беларусаў блізкага замежжа, старшыня абшчыны "Беларусь" з Малдовы А.Гізатулін усхвалявана гаварыў аб тым, што даўно пара пераводзіць доўгія размовы аб неабходнасці сувязей паміж замежнымі беларусамі і Бацькаўшчынай у рэчышча канкрэтных спраў. Днямі ён разам з Л.Удавенкам, дырэктарам камерцыйнага таварыства "Верас", што існуе пры абшчыне, наведаў рэдакцыю "Голасу Радзімы". Гутарка з гасцямі пацвердзіла, што малдаўскія беларусы настроены самым сур"ёзным чынам да такога кантактавання. І заадно яна дала магчымасць бліжэй пазнаёміцца з жыццём абшчыны. Увогуле, у Малдове было з каго стварыць суполку. У рэспубліцы сёння жыве 20 тысяч беларусаў, у Кішынёве – 6.

– Стварэнне абшчыны – аб"ектыўная неабходнасць, – гаворыць А.Гізатулін. – Супольна лягчэй выжыць у новых рынавых абставінах, складаных умовах грамадска-палітычнага стану рэспублікі і цяжкага крызісу, што прывёў да рэзкага падзення ўзроўню жыцця. Напрыклад, сярэдняя зарплата ў Малдове ў некалькі разоў ніжэйшая, чым на Беларусі, а цэны – вышэйшыя. Мы існуем усяго як год, але ўжо не так і мала зрабілі. І ўсё гэта, канешне, дзякуючы шмат якім фактарам. У нас наладзіліся добрыя адносіны з Дэпартаментам па пытаннях нацыянальных меншасцей пры ўрадзе Малдовы. Ён аказвае вялікую дапамогу: бясплатна выдзяляе памяшканне для нашых збораў, мы выдаем свае старонкі ў газеце "Гражданин Молдовы" (нешта какшталт "газеты ў газеце"), адкрылі нядзельную школу роднай мовы, дамовіліся аб выхадзе беларускай радыёпраграмы. Гэта з аднаго боку, а з другога, нам ідзе помач ад Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі ў Малдове.

Як лічыць А.Гізатулін, паразуменню і зладжанай працы абшчыны спрыяе нават яе структурная будова: гуртаванне па "абласному" прынцыпу – сектар землякоў Віцебшчыны, Гродзеншчыны і г.д. Да того ж дзейнічаюць 7 "галіновых" камітэтаў, такія, як медыцынскай дапамогі, народных рамёстваў, быту і іншыя.

Асаблівую ўвагу сябры "Беларусі" надаюць нямоглым, хворым, пакінутым старым людзям. А для тых пенсіянераў, хто не хоча сядзець без работы, арганізаваны надомныя цэхі.

Абшчыне "Беларусь" належыць ініцыятыва заснавання Савета нацыянальных таварыстваў рэспублікі, які намагаецца вырашаць асноўныя накірункі жыццядзейнасці нацыянальных меншасцей. А яна, жыццядзейнасць, – крытычны вузел на лініі лёсу сённяшняй Малдовы. Адзін з такіх накірункаў – распрацоўка законапраекта аб нацыянальных меншасцях. Напрацаваны ўжо чатыры варыянты, але ні адзін пакуль што не знайшоў падтрымкі ў парламента.

– А цяпер, – працягвае расказваць А.Гізатулін, – нас чакае шмат дзелавых сустрэч і перамоў у розных міністэрствах і ўстановах Мінска. Тут і набыццё беларускіх буквароў для нядзельнай школы, і нацыянальных касцюмаў, і абмеркаванне праблемы перасялення нашых суродзічаў з Малдовы на Бацькаўшчыну... І камерцыйныя справы, якія найлепш могуць пасадзейнічаць поспеху і змацаваць двухбаковыя адносіны паміж Беларуссю і Малдовай. Скажу таксама, што вялікія надзеі на пашырэнне геаграфіі нашых кантактаў мы ўскладаем на з'езд беларусаў свету, які адбудзецца летам і да якога мы пільна рыхтуемся. Запрашаем беларусаў блізкага і далёкага замежжа, хто зацікавіцца намі, да дыялога, прамых кантактаў. Наш адрас: Малдова, 277014, г. Кішынёў, вул. Мацевіча, 80.

Абшчына "Беларусь".

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*Апроч таго беларусы з Малдовы перадалі ў рэдакцыю пісьмо з вялікай просьбай надрукаваць. Што мы і робім.*

## ПАРАДАВАЦЬ УВАГАЙ ЦУДОЎНУЮ СТАРАСЦЬ

**Паважаныя беларускія карэспандэнты!**

**Вельмі хочацца, каб вы надрукавалі гэты ліст і парадавалі ўвагай і добрым сэрцам цудоўную старасць. Сёння я мела шчасце пазнаёміцца і сядзець за святочным сталом побач з жанчынай, якой нізка кланяюся. Ганна Канончык нарадзілася на Беларусі ў 1903 годзе. Яна выгадавала 12 дзяцей, мае 12 унукаў і пакуль што 12 праўнукаў. У свае 90 гадоў яна прыехала ў Малдову да сваіх родных.**

**Ганна Цімафееўна цікавая субяседніца, не пазбаўлена добрага гумару. У свае гады сама сябе абслугоўвае ды і час марна не псуе. Сваё жыццё аддала не толькі дзецям (усе яны маюць вышэйшую адукацыю), унукам ды праўнукам, але і выслужыла калгасную пенсію. Жыве яна ў г.Светлагорску Гомельскай вобласці. Напішыце аб гэтым. Так хочацца бачыць побач харошых людзей, знацца з імі, чытаць пра іх. Гэта ўмацуе веру, што прыйдзе яшчэ добрая часіна.**

**З павагай**

**Тамара НАУМАВА,**

**277061, Кішынёў, вул. Хынчэшць, 34—10.**

# ДА ГРАМАДЗЯНАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**25 сакавіка — нацыянальнае свята Беларусі. У гэты дзень 75 гадоў назад у Менску была абвешчаная незалежная, самастойная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Пасля доўгага панавання чужынцаў адрадзілася беларуская дзяржаўнасць. Гэта быў вынік самаахвярнага змагання лепшых сыноў нашае зямлі за шчасце і волю.**

**Гістарычныя ўмовы таго часу не дазволілі скарыстаць заваяванай перамогі. Але наш народ не скарыўся. Беларускія жаўнеры, слуцкія паўстанцы, змагары, якіх катавалі ў пастарунках, расстрэльвалі ў Курапатах, знішчалі ў гітлераўскіх вязніцах, адраджэнцы, якіх цкавалі і заносілі ў чорныя спісы "нацыяналістаў", сваёю мужнасцю і адданасцю Бацькаўшчыне набліжалі час вызвалення. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, абвяшчэнне незалежнасці ў жніўні 1991 года — лагічны працяг гістарычных падзеяў, што адбыліся ў сакавіку 1918 года. Без іх не было б сёння ў свеце Рэспублікі Беларусь.**

**25 сакавіка — святая дата ў нашай гісторыі. Арганізацыйны камітэт, створаны грамадскасцю Беларусі, заклікае ўсенародна адзначыць свята. Прапануем грамадскім арганізацыям, установам культуры, навукі, працоўным калектывам правесці ўрачыстыя сходы, вечары, навуковыя канферэнцыі, народныя шэсці, ускладанне кветак да памятных мясцінаў, да помнікаў нацыянальным дзеячам, выставы, канцэрты і іншыя мерапрыемствы, прысвечаныя 75-й гадавіне адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Арганізацыйны камітэт лічыць сваім пачэсным абавязкам выступіць непасрэдным чыннікам святкавання ў сталіцы нашае дзяржавы.**

**Выказваем надзею, што свята 25 сакавіка стане днём яднання беларускага народу, асэнсавання мінулага і згуртавання сілаў дзеля адраджэння нашае Бацькаўшчыны, якую Бог даравАў беларусам і за якую нам адказваць перад нашчадкамі і ўсім светам.**

**Жыве Беларусь!**

**Зянон ПАЗЬНЯК, Юры ХАДЫКА, Валянціна ТРЫГУБОВІЧ — Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне".**

**Васіль БЫКАЎ, Яўген ЛЕЦКА — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**Ніл ГІЛЕВІЧ, Мікола САВІЦКІ — Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

**Алег ТРУСАЎ, Мікола КІЙКА, Віталь СКАЛАБАН — Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.**

**Мікола СТАТКЕВІЧ, Уладзімір САВЯНОК, Мікола БІРУКОЎ — Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.**

**Станіслаў ГУСАК, Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ — Аб"яднаная дэмакратычная партыя Беларусі.**

**Віктар НАВУМЕНКА — Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі.**

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, Лявон АКАЛОВІЧ — Згуртаванне беларускай шляхты.**

**Іван ЧЫГРЫНАЎ — Беларускі фонд культуры.**

**Адам МАЛЬДЗІС — Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.**

**Радзім ГАРЭЦКІ, Міхась КАСЦЮК, Міхась БІЧ, Лія САЛАВЕЙ, Іван САВЕРЧАНКА, Валянцін МАЗЕЦ, Мікола ЕРМАЛОВІЧ, Георгій ШТЫХАЎ, Леанід ЛЫЧ, Міхась ЧАРНЯЎСКІ — Акадэмія навук Беларусі.**

**Яўген КУЛІК, Мікола КУПАВА, Генадзь ТУМАШ — Камісія БНФ па культуры і гісторыі.**

**Васіль ЗУЁНАК — Саюз пісьменнікаў Беларусі.**

**Аляксей МАРАЧКІН — творчая суполка "Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі.**

**Аляксей ДУДАРАЎ, Таццяна МАРХЕЛЬ, Валеры МАЗЫНСКІ — Саюз тэатральных дзеячаў.**

**Яўген САХУТА — старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі.**

**Лявон ЛІПЕНЬ — ад імя кангрэгацыі Беларускі Эвангелічны Рэфармацкі Збор.**

**Вольга ІПАТАВА — газета "Культура".**

**Мікола ГІЛЬ — газета "Літаратура і мастацтва".**

**Уладзімір КРУКОЎСКІ — часопіс "Спадчына".**

**Алесь ПЯТРОВІЧ — управа культуры Мінгарвыканкама.**

**Ганна СУРМАЧ - дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі.**

**Алесь РАШЧЫНСКІ — Саюз кампазітараў Беларусі.**

**Сяргей ПАНІЗНІК, Леў МІРАЧЫЦКІ — Таварыства Беларусь — Чэхія і Славакія.**

**Васіль ТАЛСТОЙ — Беларускае краязнаўчае таварыства.**

**Андрэй ЗАВАДСКІ, Ігар ЧАРНЯЎСКІ — камісія па культуры Мінгарсавета.**

**Ірына ЗВАРЫНА — Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.**

**Ян ГРЫБ — акцыянернае таварыства "Кросны".**

**Адам ПАЛЮХОВІЧ — фірма "Дайнова".**

**Ігар МІХНО — "Выбранецкія шыхты".**

**Здзіслаў СІЦЬКО — газета "Наша слова".**

**Міхась БАРАНІК — Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ.**

**Яўген КАЛУБОВІЧ — мінскі гарадскі клуб "Спадчына".**

**Фелікс ЯНУШКЕВІЧ — Беларуская каталіцкая грамада.**

**Уладзімір АРЛОЎ — Мартыралог Беларусі.**

**Іван ВАШКЕВІЧ — Беларускі тэатр імя Янкі Купалы.**

**Язэп ЮХО — Белдзяржуніверсітэт.**

**Анатоль ГУРЫНОВІЧ — Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў.**

**Мікола МАТРУНЧЫК — старшыня Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў.**

**Яўген ЛУГІН — старшыня Беларускай сялянскай партыі.**

**Мікола АНЦЫПОВІЧ — дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі.**

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ — Беларуская каталіцкая Грамада.**

**Эдвард ТАРЛЕЦКІ, Юры БЫКАЎ — Задзіночанне каталіцкае моладзі Беларусі.**

## МІЛАСЭРНАСЦЬ



**Спакон веку царква клапацілася аб старых і сіротах, нямоглых і ўбогіх. Пры храмах і манастырах дзейнічалі дамы прытулку. А аказанне ім дапамогі было справай гонару ўсіх добрасумленных суайчыннікаў. Нядаўна Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) Беларусі выступіў з ініцыятывай будаўніцтва дому састарэлых на сродкі царквы ў Мінску. Гатовы праект, якім прадугледжана пражыванне 75 чалавек у зручных, добраўпарадкаваных памяшканнях (па 1—2 чалавекі ў пакоі). Тут жа размесцяцца царква, класы нядзельнай школы, духоўная семінарыя, медыцынская служба. Ужо пачата практычная праца па ажыццяўленню праекта.**

**НА ЗДЫМКУ: такім будзе дом састарэлых у Мінску.**

# ЗДАРОЎЕ ПАТРАБУЕ ДОЛАРАЎ

Аптэкі і бальніцы Рэспублікі Беларусь сёння адчуваюць вялікі дэфіцыт лекаў, медыкаментаў, сучаснай медтэхнікі. Набыць усё гэта можа толькі той, хто мае ў сваім распараджэнні валютныя сродкі. Жлабінчанам у гэтым плане ў пэўнай ступені пашчасціла. Мясцовы Беларускі металургічны завод гэтую злашчасную валюту мае і выкарыстоўвае яе з карысцю для людзей.

Яшчэ летась з замежнымі фірмамі былі заключаны кантракты на пастаўку ў Жлобін медыкаментаў і медтэхнікі. Сума выдзеленых для гэтых мэт валютных сродкаў склала амаль мільён долараў. І вось у студзені новага года ў горад прыбылі першыя буйныя партыі доўгачаканага грузу з Францыі і Аўстрыі. Хутка лекі пачнуць паступаць і з ЗША (памер кантракта складае 500 тысяч долараў).

Думаюць на БМЗ і аб перспектыве развіцця Жлобінскага тэрытарыяльнага медаб'яднання, якое ўжо сёння выходзіць на ўзровень аднаго з самых буйных у рэспубліцы. Апошнім такім крокам стала набыццё партыі камп'ютэраў для стварэння на базе райбальніцы цэнтралізаванай камп'ютэрнай сеткі, што значна аблегчыць працу ўрачоў і павысіць яе якасць. Зараз ужо ідзе выпрабаванне згаданай сістэмы.

Па словах намесніка галоўурача Жлобінскага медаб'яднання В. Мiраеўскага, які адказвае за гэтую справу, на стварэнне камп'ютэрнай сеткі ў райбальніцы яны не спыняцца. У планах –такі ж інфармацыйны камп'ютэрны цэнтр у райпаліклініцы. А наогул наспеў час час стварыць адзіную рэспубліканскую медінфармацыйную сістэму з далейшым яе падключэннем у падобную камп'ютэрную сістэму Еўропы.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

## БНР: ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

# ІІ. ВЯРТАННЕ СПАДЧЫНЫ

ПЕРШАЯ сусветная вайна прынесла многа гора беларускаму народу. Амаль цалкам была зруйнавана гаспадарка, вялікая колькасць людзей была вымушана пакінуць свае родныя мясціны. Але самы вялікі ўрон вайна нанесла культурна-нацыянальнай спадчыне беларускага народа.

З намечаных да здачы рускімі войскамі месцаў "эвакуіраваліся" поруч з тэхнічнымі прадпрыемствамі, якія сапраўды маглі стаць ваеннай здабычай немцаў, губернскія, павятовыя і валасныя адміністрацыйныя ўстановы з усімі іхнімі справамі і архівамі, публічныя бібліятэкі, архівы і музеі, школы, пачынаючы ад вышэйшых да пачатковых.

Не ўсе вывезеныя з Беларусі ўстановы напаткаў аднолькавы лёс: адны з іх валяліся па складах і раскрадаліся адтуль, другія сяк-так існавалі, дзякуючы намаганням шчырых беларускіх патрыётаў. Дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якая апынулася ў Смаленску, Ярушэвіч у чэрвені 1918 года звярнуўся да Антона Луцкевіча: "Я, паночку, трэці год ужо змагаюся за тое, каб семінарыя засталася нашай. І што далей, то робіцца ўсё цяжэй, бо зашмат ёсць сквапных рук на нашае дабро. Мне, дзякаваць Богу, яшчэ дагэтуль удалося захаваць беларускі склад вучняў. Але цяжка, цяжка! Папрасіце тамака (у Менску) якой помачы для нас". У некалькіх кватэрах у Маскве прыткнулася Менская гімназія, бароніць сябе як уласнасць Беларусі. Менскі настаўніцкі інстытут апынуўся ў Яраслаўлі, Віленская І-я гімназія знаходзілася ў мястэчку Глухаве Чарнігаўскай губерні, Менская двухкласная школа — у Казані, Гродзенская — у Калузе.

Восенню 1917 года расійскі ўрад даў сваю згоду на вываз з Петраграда розных помнікаў мінуўшчыны і мастацтва. Гэтага дамагаліся прадстаўнікі ўкраінскіх і польскіх арганізацый. На Украіне апынулася бібліятэка Апалінара Мікалаевіча Храптовіча-Буцянёва і калекцыі Віленскага універсітэта, палякам пашанцавала вывезці праз Стакгольм у Польшчу многа беларускіх рэчаў культурна-гістарычнага значэння.

17 лістапада 1917 года прадстаўнікі Генеральнага камісарыята Вялікай Беларускай Рады ў Петраградзе Язэп Варонка, Зміцер Жылуновіч і Эдвард Будзька ў мэтах выканання пастановы 8-й сесіі ВБР, якая адбылася 18—25 кастрычніка 1917 года, звярнуліся да Наркома асветы Савецкага ўрада з просьбай аб садзейнічанні найхутчэйшаму адраджэнню былога Віленскага універсітэта з дазволам запатрабаваць усю раней належачую яму ўласнасць. Для часовага размяшчэння універсітэта ВБР прапанавала перадаць будынкі і іншую маёмасць Полацкага кадэцкага корпуса. Выкананне гэтай пастановы даручалася Выканаўчаму Камітэту Вялікай Беларускай Рады ў Менску. Для аднаўлення дзейнасці універсітэта прадстаўнікі ВБР прасілі выдзеліць адзін мільён рублёў. Але просьба не знайшла станоўчага адказу з боку Савецкай улады. Наадварот, як ужо адзначалася вышэй, калекцыі Віленскага універсітэта з дазволу бальшавікоў апынуліся на Украіне. У снежні 1917 года ў Петраградзе было створана "Беларускае згуртаванне прыхільнікаў літаратуры і гісторыі", але з-за разрухі спыніла сваё існаванне. У канцы снежня 1917 года была спроба аднавіць яго функцыі ўжо ў Мінску, дзе заснавальнікамі з'явіліся Язэп Варонка, Кастусь Езавітаў, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Яўген Ярушэвіч і Яўген Ладноў. Але з-за палітыкі бальшавікоў, якія забаранілі дзейнасць беларускіх нацыянальных арганізацый, відавочна, стала немагчымым ажыццявіць гэтую спробу.

Перад Народным сакратарыятам БНР, які быў створаны 19 лютага 1918 года, стаяла складаная задача па збору для Бацькаўшчыны расцярушанага вайной багацця. Як паведамляла газета "Вольная Беларусь", "Беларускі Сакратарыят затурбован цяпер тым, каб прыпыніць далейшае аграбленне беларускіх архіваў польскімі захватчыкамі. Досыць сказаць, што бібліятэка менскай польскай "мацежы" з дазволу германскіх акупацыйных уласцей, абабрала менскую мужчынскую класічную бібліятэку. Палякі забралі адтуль да 1 300 кніг, сярод каторых ёсць кнігі вялізнай гістарычнай вартасці, унікумы друку XVI—XVII стагоддзяў. Была таксама спроба захапіць старадаўні архіў мінскіх сярэдніх школ, лічачы яго "ісконі польскім". Народны Сакратарыят Беларусі падняў таксама пытанне перад велікарускім савецкім урадам і германскімі ўладамі аб тым, каб супыніць ліквідацыю ўсіх эвакуіраваных у свой час з Беларусі ўстаноў (сярэдніх школ, Скарбовай палаты, Дзяржбанку, Губернскіх устаноў і г.д.). Асаблівая ўвага была звернута на тое, каб вярнуць цэлымі ўсе беларускія архівы.

Прэзідыум Беларускай Рады ў Вільні, даведаўшыся, што ў Расіі па загаду ўрада адбываецца ліквідацыя эвакуіраваных з Беларусі школ і культурна-прасветных устаноў, упаўнаважыў Гродзенскі губернскі цэнтральны камітэт злучаных грамадзянскіх арганізацый учыніць патрэбныя крокі перад расейскімі і нямецкімі ўладамі дзеля павароту ўпамянутых устаноў на Беларусь і аднаўленне тут іх чыннасцей, а таксама ўзяць на сябе ахову і рээвакуацыю ўсіх вывезеных з Беларусі культурных каштоўнасцяў, музеяў, архіваў і дакументаў, якія ўстанаўлівалі правы беларускага насельніцтва і тычыліся яго матэрыяльных інтарэсаў.

Беларуская павятовая Бабруйская Рада ў рэзалюцыі ад 14 красавіка 1918 года выказала неабходнасць "аб'яднання ўсіх жывых сіл у нацыянальна-культурнай працы, напрыклад, па вяртанню Беларусі эвакуіраваных школ, гімназій, архіваў і адміністрацыйных устаноў".

2 ліпеня 1918 года Старшыня Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі атрымаў заяву ад намесніка старшыні Педагагічнага Савета Менскага настаўніцкага інстытута Каранеўскага. Той прасіў перавесці як мага хутчэй інстытут з Яраслаўля ў Менск. Лік слухачоў і выкладчыкаў інстытута складаў 150 чалавек, з маёмасці захаваліся: бібліятэка, фізічны і геаграфічныя кабінеты з абсталяваннем, хімічная лабараторыя, а таксама падручнікі і канцылярыя інстытута. Для працы інстытута неабходна было выдзеліць 300 тысяч рублёў. З 4 верасня 1918 года пачаўся пераезд у Менск. Уладкаваннем інстытута ў Менску займаўся Кастусь Езавітаў. Настаўніцкі інстытут аднавіў сваю дзейнасць. Рэктарам яго быў назначаны Вацлаў Іваноўскі, тут выкладалі Я.Карскі, Б.Тарашкевіч і У.Ігнатоўскі.

22 жніўня 1918 года ў Менск прыехалі прадстаўнікі Менскай мужчынскай гімназіі, і яна таксама неўзабаве аднавіла сваю працу.

Па ініцыятыве заснавальнікаў культурна-асветнага аб'яднання "Бацькаўшчына" ў верасні 1918 года пачалося адраджэнне дзейнасці Беларускага згуртавання прыхільнікаў гісторыі і літаратуры. Неабходнасць у гэтай арганізацыі ўзрастала з кожным днём, таму што польская арганізацыя "Забыткі" з такімі ж мэтамі, карыстаючыся падтрымкай польскіх каланістаў у Беларусі, скупіла і сабрала ўсё, што засталося ад вайны і рабункаў цэлым і з'яўлялася помнікам беларускай культуры. Менавіта неабходнасць стварыць процідзеянне зацятым польскім калекцыянерам, якія спустошвалі беларускія скарбніцы і тым самым пазбаўлялі беларускую нацыянальную культуру яе багацця, і выклікала ў заснавальнікаў арганізацыі думку стварыць яе ў Менску, а аддзелы "Беларускага згуртавання прыхільнікаў літаратуры і гісторыі" рассеяць па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Такім чынам, трэба адзначыць, што гістарычны вопыт дзейнасці ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі па захаванню і вяртанню культурнай спадчыны беларускага народа было б карысна, на наш погляд, выкарыстоўваць і цяпер. Тым больш, што задачы па вяртанню Беларусі нацыянальнай культурнай спадчыны, якія паўсталі цяпер, бяруць свой пачатак менавіта з таго часу — перыяду першай сусветнай вайны.

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## ІНТЭЛЕКТУАЛЫ І ЎЛАДА

# ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ: ШТО ЗА НАЗВАЙ?

На Беларусі ўзнікла яшчэ адна грамадская арганізацыя —Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ. Гэта няўрадавая, некамерцыйная і непалітычная структура. Іншымі словамі, яна ўзнікла незалежна ад урада, не ставіць перад сабой палітычных мэтаў — дасягнення ўлады, напрыклад. Фонд носіць імя канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі. У фондзе яго імя звязваюць перш-наперш з важнымі дзяржаўнымі рэформамі. Менавіта ў час яго кіравання быў прыняты славуты Статут Вялікага Княства. Сёння ж перад грамадствам стаіць блізкая задача — прыняцце новай канстытуцыі Беларусі. Так што зварот да асобы Сапегі ў наш час —з'ява вытлумачальная.

Старшыня фонду — Георгій Куневіч. Я ж сустрэлася з адказным сакратаром фонду Валерыем Грыцуком. Менавіта да яго звярнулася з просьбай расказаць і пра асноўныя задачы фонду.

— Відавочна, што надышоў час рэфарміраваць існуючыя структуры ўлады. А без змен у сістэме мясцовых улад нічога з рэформамі не атрымаецца. Лепшы прыклад у гэтай сувязі час, калі ў Польшчы да ўлады прыйшла "Салідарнасць". Дзяржава не мела новых прафесійных кадраў — у першую чаргу на месцах, якія б ведалі, што і як рабіць. Гэта і выклікала крызіс улады. Існуючая сістэма кіравання на месцах не дзейнічае. Усе ведаюць, што дэпутат быццам і мае ўладу фармальна. А вось выкарыстоўваць яе ён не навучаны. І, дарэчы, гэтыя складанасці разумеюць нашыя суседзі. Нядаўна ў Расіі, на Украіне адбыліся канферэнцыі па праблемах мясцовай улады. На канферэнцыю, што праходзіла ў Кіеве, былі запрошаны і прадстаўнікі фонду імя Льва Сапегі. Канферэнцыя была арганізавана апаратам прэзідэнта, Вярхоўным Саветам Украіны і Акадэміяй навук. Там выпрацоўваліся прапановы да праекту канстытуцыі. Рэформу палітычнай сістэмы, мясцовай улады на Беларусі мы лічым не проста неабходнасцю, а аб'ектыўным працэсам, якому патрэбны пэўны накірунак. І калі яго не вызначаюць зверху, то трэба падштурхнуць вышэйшыя ўлады. Трэба каму-небудзь займацца падрыхтоўкай кадраў кіравання на месцах. У сувязі з гэтым мы і вызначаем асноўныя задачы фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ. Гэта садзейнічанне працэсам рэформаў у галіне мясцовага самакіравання, павышэнне прававой культуры і абароны правоў чалавека, культурна-асветніцкая дзейнасць, правядзенне сацыялагічных даследаванняў.

— Ці не атрымаецца так, што дзейнасць фонду будзе канкурыраваць з выканаўчай уладай?

— Наша арганізацыя ні ў якім разе не збіраецца пярэчыць дзяржаўным устоям і аслабляць сістэму ўлады. Сістэма, здольная самарэфарміравацца, толькі ўзмацняе гэтым сябе, шукае сваю лепшую новую якасць. Мы, зразумела, выступаем не за рэвалюцыйны шлях, а за эвалюцыйныя змены.

Сваю дзейнасць фонд распачаў з канферэнцый. Адна з іх тычылася выпрацоўкі канкрэтных прапаноў у праект канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. А ў прыватнасці, артыкула па мясцоваму самакіраванню. Дарэчы, у свой час праўленне фонду імя Льва Сапегі даслала адкрыты ліст Канстытуцыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь. У ім адзначалася, што паняцце "мясцовае самакіраванне" ў праекце канстытуцыі "не адпавядае ... агульнапрынятаму ў еўрапейскім канстытуцыйным праве і Еўрапейскай хартыі па тэрытарыяльнаму самакіраванню". У сувязі з гэтым было прапанавана правесці цыкл тэлесустрэч дэпутатаў мясцовых Саветаў з членамі і экспертамі Канстытуцыйнай камісіі. Адказу ад Канстытуцыйнай камісіі пакуль што няма.

У фонд імя Льва Сапегі ўваходзяць дэпутаты мясцовых Саветаў гарадоў Мінска, Магілёва, Гомеля, прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі — рэктар БДУ Фёдар Капуцкі, кіраўнік Скарынінскага цэнтра Адам Мальдзіс, мастак Аляксей Марачкін.

Вырашаць любую праблему магчыма толькі ва ўсім комплексе. Таму праўленне фонду спадзяецца на супрацоўніцтва з спецыялістамі ў самых розных галінах. Ужо зараз курс лекцый, што праходзяць пад эгідай фонду імя Льва Сапегі, чытаюць выкладчыкі з Акадэміі кіравання, БДУ, навукоўцы Акадэміі навук, замежныя лектары. Наладжваюцца трывалыя сувязі фонду з польскімі арганізацыямі. Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў лічыць неабходным аб'яднаць інтэлектуалаў, дэмакратычна настроеных прадстаўнікоў грамадства на працу для будучыні Беларусі. Валерый Грыцук кажа:

— Сённяшні стан рэчаў можа існаваць да пэўнага моманту. Вядома, што ёсць паняцце крытычнай масы. Пакуль наша грамадства не набыло яе. Хто ведае, што будзе, калі такое здарыцца. Таму ўжо сёння трэба рабіць усё, каб свядомасць людзей даспела да разумення, што трэба нешта змяніць у сістэме ўлады на месцах. І рабіць гэта паступова і настойліва. Канешне, лепшы доказ неабходнасці змен — прыклады іншага жыцця, іншых сістэм. Таму мы і шукаем арганізацыі на Беларусі і за мяжой, якія былі б зацікаўлены ў супрацоўніцтве з намі і маглі б дапамагчы нам у пошуках кантактаў, інфармацыі. Што і казаць, для прадстаўнікоў мясцовых улад была б вельмі карысная стажыроўка за мяжой. Шукаем мы і спонсараў сваёй дзейнасці.

Апошнім маім пытаннем да Валерыя Грыцука было:

— У вас шмат складанасцей. Ці дапускаеце вы магчымасць, што не зможаце пераадолець фінансавыя цяжкасці?

— Калі мы не зможам зрабіць сваю справу па аб'ектыўных прычынах, мы хаця б падштурхнём вышэйшыя ўлады да разумення неабходнасці змен у існуючай сістэме самакіравання.

**Алена СПАСЮК.**

# ПАЧУЙ МОЙ ГОЛАС, РАДЗІМА!

Маючы ў сваёй кватэры "Голас Радзімы" і каляндар "Родны край", пераканана: Бог жыве ў маім сэрцы, у маёй кватэры.

Вельмі прашу дараваць мне памылкі правапісу. Вучылася я на рускай мове ў Карэліі і карысталася ёю ўвесь час, але з паловы лістапада раблю спробу карыстацца роднай мовай. Вельмі крыўдна, што ніхто не паклапаціўся ні да навучальнага года, ні да новага 1993 года, каб калі не ў крамах, дык хаця б у бібліятэках былі слоўнікі для агульнага карыстання.

Абурае мяне і тое, што баптысты, нібы снегам, амаль засыпаюць-заклейваюць і людзей, і сцены дамоў, і платы лістоўкамі, аб'явамі, брашурамі, столькі часу ім адведзена ў Доме культуры.

Хацелася б пачуць адказ на пытанне, чым займаецца творчая моладзь Беларусі. Што думаюць і што робяць практычна паэты і пісьменнікі больш сталага ўзросту, упускаючы галоўны момант жыцця. Ім напэўна мрояцца жахі за асабістае жыццё, а не будучыня Матулі-Беларусі. Як магло здарыцца, што да новага года, такога доўгачаканага, такога абнадзейваючага, амаль не было беларускіх календароў? А можна было б і падарункі падрыхтаваць для дзяцей у выглядзе баек, загадак, песенек і вершаў пра родны край. Дзеткі гэта ўсё так любяць. А адраджэнне ўсяго роднага, усяго беларускага, я лічу, менавіта з дзетак трэба пачынаць і не кідаць ім нейкую капейчыну, як ласунак шчаняці, а кожнай сваёй крывінкай, кожным дыханнем дапамагчы стаць ім сапраўднымі беларусамі. Я лічу, што кожны з нас, у каго чыстае сумленне і калі мы сапраўды гатовы ўзваліць на свае плечы ўвесь боль Беларусі, павінен узяць дзіця-сірату ў сваю сям'ю, калі ёсць хоць маленькая магчымасць — гэта і будзе той гаючай кропелькай расы, якая ўратуе нас. З такой прапановай я звярнулася ў лістападзе 1992 года да аднаго з паэтаў Беларусі, але нават адказ не атрымала. Наконт календароў звярнулася ў рэдакцыю аднаго з беларускіх часопісаў. Не ведаю, як мяне зразумелі, даслаўшы мне два календары "Родны край". Мне вельмі хацелася б мець у сваёй невялікай бібліятэчцы кнігу Сяргея Законнікава "Закліnанне", якую шукала па ўсёй Беларусі, ды так і не знайшла. І вельмі балюча будзе, калі гэта ж здарыцца з кнігай "Туга па Радзіме".

**МІКУЛІЧ Ганна (Нэла) Сцяпанаўна.**

г. Вілейка.

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*

# МАРА ПРА ВЯЛІКІ СХОД

АДНЫМ з найбольш самабытных нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя з'яўляецца Максім Гарэцкі, які ўнёс непаўторны ўклад у беларускае нацыянальнае адраджэнне, у развіццё мастацкай прозы і літаратуразнаўчай навукі і які сваімі мастацкімі творамі памог нам пабачыць і зразумець многія працэсы і з'явы пераломнай эпохі ў гісторыі народа.

Ёсць у пісьменніка незвычайны алегарычны абразок пад назвай "Фантазія": над беларускай зямлёю, спакутаванаю ў час ваеннае завірухі, узнімаецца з "няведамай патомкам ямы" наш першадрукар Скарына і прылятае ў Мінск да цяжкахворага Купалы, які з болем і трывогай за лёс Бацькаўшчыны хоча склікаць на сход людзей зямлі беларускай. Але народ яшчэ не гатовы, і тады яны ўдваіх узняліся паклікаць з небыцця тых, хто найбольш зрабіў для адраджэння нацыі — саміх будзіцеляў.

Сярод іх на першым месце аказаўся Францішак Багушэвіч. А ўжо Скарына і Багушэвіч разбудзілі Цётку, Максіма Багдановіча, Івана Луцкевіча, Лявона Гмырака, Алеся Гаруна, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Сяргея Палуяна, Каруся Каганца.

Падзеі "Фантазіі" можна аднесці да лета 1918 года, калі Янку Купалу і сапраўды абяссіліла цяжкая хвароба. Праўда, тут можа ўзнікнуць пытанне: у той час прайшло нямногім больш за паўгода пасля I Усебеларускага кангрэса, усенароднага сходу. Але нідзе ён не згадваецца. Чаму?

У свядомасці самога Максіма Гарэцкага ён жыў. Сведчанне гэтаму — апавяданне "Усебеларускі з'езд 1917-га года" з такім характэрным заключным акордам-дыялогам:

— А цяпер жа дзядзька спадзяецца, што будзе Беларусь?

— Цяпер! Цяпер, браце, уся наша воласць, як адзін, пастаівіцца грудзямі за яе. Як жа ёй не быць? Не мы, дык нашы дзеці паднімем-ткі яе на свае ногі.

А вось Янка Купала ў творы быццам забыў пра тую падзею. І тым не менш мы маем дастаткова падстаў меркаваць, што ў свядомасці песняра жыла памяць пра той кангрэс. Інакш бы паэт так часта, настойліва, так палымяна і пафасна не клікаў да сходу:

**Паўстань, Народ! Для будучыны шчасце.**  
**Ты строй, каб пут не строіў больш сусед...**  
**.......................................**  
**Сваю магутнасць пакажы ты свету, —**  
**Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.**  
**Паўстань, Народ!**

*("Свайму народу").*

**Час склікаці ўжо грамаду**  
**На вялікую нараду,**  
**На вялікі сход!**  
**Хай рассудзіць, хай разважаць,**  
**Слова цвёрдае хай скажаць,**  
**Скажаць сам народ!**  
**.................**  
**За сябе сам пастаяці**  
**І за Бацькаўшчыну-маці**  
**Йдзі, народ, на сход!**

*("Час").*

Першы Усебеларускі кангрэс не здолеў, не паспеў здзейсніць тое, што павінен быў бы, для чаго ён быў паклікан. Аднак жа сваім сходам і вынікамі (створаны кангрэсам кіруючы орган абвясціў у сакавіку 1918 годзе Беларускую Народную Рэспубліку) паказаў, што толькі так, толькі праз сваіх прадстаўнікоў народ можа і павінен узяць свой лёс у свае рукі. І таму ідэя народнага сходу аказалася ўжо неўміручай. Свой працяг сама тэма знайшла ў купалаўскай паэме "Безназоўнае", у якой паэт кліча пад бацькоўскі дах усіх беларусаў для сумеснай працы ў згодзе і шчасці:

**Нібы пчолы ў соты з мёдам**  
**Да свайго вулля,**  
**Мы вяртаемся дадому,**  
**Як адна сям'я.**  
**На сход сходзімся і лічым,**  
**Ці усе прыйшлі,**  
**Хто спазніўся — прыйсці клічам**  
**Да сваёй зямлі.**

Хутка, аднак, аказалася, што такія заклікі наносяць шкоду пралетарскай ідэалогіі. Роўна 60 гадоў таму назад з'явілася кніжка вядомага змагара за бальшавіцкую партыйнасць літаратуры Алеся Кучара пад суперактуальным не толькі для таго, але і зусім нядаўняга часу загалоўкам: "Вялікая перабудова". І там з тых радкоў паэмы "Безназоўнае" робяцца павучальныя вывады: "Янка Купала ў гэтых вершах заклікае ісці, сабірацца ў БССР, у адну сям'ю, што называецца, усіх беларусаў, бяз розьніцы іх клясавых сымпатый ці антыпатый да дыктатуры пралетарыяту" (с. 17). Сёння мы ведаем, якім трагічным аказаўся лёс патрыётаў, у тым ліку і самога М. Гарэцкага, што паверылі бальшавікам, вярнуліся з чужыны на родную зямлю, каб развіваць і ўзбагачаць нацыянальную культуру.

У сваім апавяданні "Фантазіі" Максім Гарэцкі вызначае дзве цэнтральныя постаці ва ўсёй гісторыі беларускага народа — Скарыну і Купалу. Яны сімвалізуюць мінулае і сучаснае. Купала становіцца ўвасабленнем духу нацыі. Сам пясняр у той час быў абяссілены хваробай. А хіба ж не такой абяссіленай аказалася і сама Беларусь?

Побач са Скарынам і Купалам узвышаецца Францішак Багушэвіч — ён называецца "народным баянам", "бацькам адраджэння". Усе яны разам мабілізуюць духоўны патэнцыял нацыі шляхам выкарыстання ўсяго таго, што пакінула нам гісторыя.

Сваю святую справу кожны з будзіцеляў рабіў паасобку, часта далёка ад радзімы. Але іх намаганні і сілы зліліся на бацькоўскай зямлі ў адзін паток. Тыя, што адышлі ў нябыт, сваім прыкладам і словам, пакінутым у спадчыну, змагаліся побач з жывымі за пашырэнне ідэй нацыянальнага адраджэння.

Такім самым будзіцелем стаў і Максім Гарэцкі — яму гісторыя адвяла адно з найбольш ганаровых месцаў у нацыянальнай культуры і гісторыі. Ён паказаў, як народ у пакутах шукаў дарогу да праўды — і проста чалавечай, і гістарычнай. Яшчэ ў апавяданнях першага зборніка "Рунь" (1914 год) прадстаўнікі маладой інтэлігенцыі — выхадцы з сялянскага асяроддзя — разважаюць не толькі пра спрадвечныя трывогі і беды сяла, але і пакутліва шукаюць адказу на нябывала складаныя і спрэчныя праблемы і загадкі быцця чалавека і грамадства.

Максім Гарэцкі падхапіў купалаўскую ідэю ўсенароднага сходу. Але ён, як разважлівы празаік, удумлівы назіральнік жыцця, паказаў, якім няпростым быў шлях нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў. Прапаршчык Абдзіраловіч з аповесці "Дзве душы" ніяк не можа знайсці свайго месца ў бурлівым віры падзей. Яго сімпатыі на баку сялян, абяздоленых і бяспраўных. &н спачувае і дзеячам беларускага адраджэнцкага руху. Але не ведае, як спалучыць сацыяльныя інтарэсы і нацыянальныя патрабаванні. Сілу закона для яго мелі і маральныя нормы.

Абдзіраловіч, як і героі іншых твораў Максіма Гарэцкага, пакутуе ад усведамлення таго, што на Беларусі гаспадараць чужынцы — прышэльцы з розных краёў. Як сведчанне духоўнай пакуты і скаргі гучыць яго пытанне, звернутае да Іры: "Мне здаецца, што ўсё няшчасце тут ад разладу тэорыі і практыкі. Бо, скажыце, калі ласка: (...) Тэорыя Інтэрнацыянала вінавата ў тым, што беларускім народам кіруюць цяпер бальшавіцкія камісары ўсякіх нацый, апрача беларускай? Ці яна вінавата, што ў нашым знамянітым **Облiскомзапе** ёсць армяне, латышы, жыды, палякі, маскоўцы, але няма нас, беларусаў?"

У творчай манеры Максіма Гарэцкага бачыцца адна асаблівасць: ён пазбягае спрошчаных, занадта прамалінейных, а гэтым самым — малазмястоўных ацэнак. Пісьменнік бачыць шматколернасць і шматгалоссе жыцця. Не ўсюды ён ухваляе паводзіны і адданых дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Успомнім хоць маладога Сухавея, які ў кожным недастаткова ўсвядомленым беларусе гатоў быў бачыць здрадніка і рэнегата. У той жа час аўтар умее няшчадна выкрываць бесчалавечнасць там, дзе яна правіць свой баль. У гэтым сэнсе ў творы асабліва агіднымі ўспрымаюцца дзеянні капітана Гарэшкі-Гарэліка, які па заданні белых верай і праўдай служыў у ворагаў і з небывалай жорсткасцю расправіўся з народам — у аднолькавай меры ад імя белых і чырвоных, запісваючы, праўда, усё на рахунак бальшавікоў. Юбілей Максіма Гарэцкага ў часе наблізіўся да небывала важных святаў у гісторыі нашага народа. Нядаўна мы адзначылі — не так у агульнадзяржаўным маштабе, як у сваёй свядомасці — 75-годдзе I Усебеларускага кангрэса, а перад намі такія ж самыя ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі, якая праклала дарогу для нашай дзяржаўнасці.

Сёння мы сталі сведкамі ажыццяўлення мары аб вялікіх сходах беларусаў, іх яднання ў імя высакароднай мэты нацыянальнага адраджэння. У снежні 1992 года адбыўся Сход нашых суайчыннікаў з блізкага замежжа, а летам гэтага года павінен адбыцца з'езд беларусаў свету. Побач з Янкам Купалам і іншымі дзеячамі адраджэння Максім Гарэцкі рыхтаваў такія сустрэчы не толькі сваёй "Фантазіяй", але і ўсёй творчасцю. І таму мы сёння шчырым добрым словам успамінаем і самога пісьменніка, і ўсіх тых, хто побач з ім працярэбліваў след — часта цаной свайго жыцця — "к свабодзе, роўнасці і знанню", як сказаў пра першыя крокі і намаганні нашых адраджэнцаў Янка Купала яшчэ ў далёкі дакастрычніцкі час.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ЛЕГЕНДА

# ІМЯ ГЭТАЙ ЗОРКІ — ПАЛЫН

Легенду пра Чарнобыль мы запісалі ў час паездак па Кармянскаму раёну ад ураджэнкі вёскі Залатамін С.Давыдзенка (пасля ліквідацыі гэтага пасялення Софья Мікітаўна жыве ў Карме). Гэтая бабуля, дарэчы, расказала нам шмат чаго пра мінулае як сваёй вёскі, так і ўсёй ваколіцы (ёсць жа цікаўныя людзі!). Што ж датычыць згаданай легенды, то сама бабуля сказала пра яе так: "У дзяцінстве гэта ўяўлялася мне казкай, а цяпер... Нават і не ведаю. Але ж слухайце і разважайце самі".

Разважаць сапраўды ёсць над чым. Вось змест гэтага нязвычнага апавядання бабулі Соф"і (захоўваем лексіку і стыль расказчыцы, у якім, дарэчы, як у люстэрку, бачныя асаблівасці дыялектнага сінтаксісу).

"Калі мы ламалі траву і з яе рабілі венік і спыталі ў таткі, як гэтую траву завуць, татка адказаў, што гэта чарнобыль, і мы спыталі, чаму яе так завуць, то татка нам расказаў — можа быць і быль. Пачынаў так: у якім-та царстве, у якім-та гасударстве гэта было, вельмі даўно, людзі хацелі быць разумней усіх і што-та там пабудавалі, пабудавалі вялікі корпус і закрылі туды вялікую сілу невядомую, і яна там пачала бушаваць і вырвалася на свабоду, спаліла ўсё, па ўсёй краіне, пазабівала людзей і ўсё жывое, і доўга туды нікому нельга было з"яўляцца жывому, і за гэты час там пераменіліся лясы, дрэвы, і звяры, і трава. І калі першыя людзі зайшлі на тую зямлю, то ўбачылі, што і зямля перамянілася, багата стала пяску, і па той зямлі вырасла яшчэ нікім не віданая трава, і яны гэту траву назвалі чорна-быль і сказалі: "Яе нада рассяліць па ўсяму свету, штоб людзі называлі і памяталі аб такой катастрофе і штоб яшчэ не пабудавалі што-небудзь падобнага".

У першы момант пасля пачутага мы не сталі пярэчыць бабулі, хоць і сумняваліся ў тым, что такая легенда сапраўды была пачута ёю ў дзяцінстве. Ды і потым, скажу шчыра, сумненні не пакідалі нас. Аднак і не даваць старой жанчыне, якая шчыра апавядала нам пра былое, не было як быццам падстаў. У такой разгубленасці мы знаходзіліся доўга. І толькі праз некаторы час пачалося, скажам так, асэнсаванне сюжэта, пачалі прыходзіць пэўныя думкі, якімі, лічу, ёсць сэнс падзяліцца, хоць не выключана, што сёй-той успрыме іх як яшчэ адну казку. І тым не менш, у любым выпадку чарнобыльская легенда — гэта твор вуснай народнай творчасці, і ў якасці гэтакага яна (легенда) павінна мець тлумачэнне. Вось мая ўласная версія.

Пачуты ад бабулі Соф"і сюжэт, несумненна, калі гаварыць "павучонаму", актуалізаваўся пасля 1986 года, усплыў у памяці расказчыцы і атрымаў шэраг новых дэталяў. Так, відавочна новымі ўстаўкамі з"яўляюцца словы-паняцці "вялікі корпус" і "катастрофа", якія ўжыла С.Давыдзенка. Але ж, на маю думку, сярод гэтых новаўвядзенняў выразна праглядвае і даўняя, традыцыйная нават па сваім зачыне, аснова легенды-казкі ці легенды-былі ("У якім-та царстве, у якім-та гасударстве гэта было, вельмі даўно..."; "доўга туды нікому нельга было з"яўляцца жывому, і за гэты час там перамяніліся лясы, дрэвы, і звяры, і трава, ...і зямля перамянілася, багата стала пяску, і па той зямлі вырасла яшчэ нікім не віданая трава..."). Такім чынам, кульмінацыяй сюжэта неабходна лічыць пакаранне людзей за пэўныя грахі. Вынік жа свавольства людзей і вынік Божай кары — змяненне самога ландшафту, флоры і фауны і — самае галоўнае — з"яўленне дзіўнай, невядомай дагэтуль травы — "чорна-былі". Трава гэтая, як бачым, асэнсоўваецца як пэўны, самы галоўны сімвал наступстваў, якія чакаюць тых, хто парушае ўстаноўлены парадак і пачынае займацца тым, што не дадзена чалавеку ад самага яго пачатку.

Калі разважаць такім чынам, няцяжка знайсці выразную аналогію нагаданай легендзе ў "Апакаліпсісе" Іаана Багаслова (у перакладзе з грэчаскай "Апакаліпсіс" — гэта "Адкрыццё", парыску — "Откровение"), апошнім з сачыненняў, уключаных у Новы Запавет.

У хрысціянстве, як і ў большасці іншых рэлігій свету, распрацоўваецца сюжэт Страшнага Суда, Канца Свету, нейкай касмічнай катастрофы, пасля якой свет зноў адраджаецца ўжо ачышчаны ад грахоў (у чарнобыльскай легендзе — "яе, траву, трэба рассяліць па ўсяму свету, штоб людзі называлі і памяталі...", гэта, значыць, памяталі аб тым, чаго нельга рабіць і што загубіла іх папярэднікаў).

Згодна з "Апакаліпсісам" Іаана Багаслова, Канец Свету наступіць пасля Другога Прышэсця Збавіцеля, які пераможа сілы зла і здзейсніць Страшны Суд, які будзе суправаджацца сусветнай катастрофай. Даследчыкі гэтай тэмы адзначаюць, што Іаан Багаслоў у сваім "Адкрыцці" ("Откровении") абапіраўся на тую апакаліпсічную літаратуру, якая мелася ў той час, у прыватнасці, на старазапаветныя тэксты ("ветхозаветные"). І тым не менш, у "Апакаліпсісе" прадстаўлены больш падрабязны, дэталёвы, чым у Старым Запавеце, малюнак агульнай катастрофы, паколькі аўтар, які, як лічаць, склаў свой твор дзесьці ў 90-я гады новай эры, выкарыстаў не толькі папярэднія легендарныя апавяданні, але і сведчанні відавочцаў аб параўнальна нядаўніх для яго часу экалагічных катаклізмах паблізу Чорнага мора.

Сімволіка "Апакаліпсіса" даволі складаная і ў многім загадкавая. Нас жа цікавіць толькі тая частка твора, якая пэўным чынам суадносіцца са згаданай вышэй чарнобыльскай легендай. Пачынаецца сусветная катастрофа з моцнага землетрасення. Потым з'яўляюцца паперамена сем анёлаў, якія трубяць і абвяшчаюць аб тых ці іншых з'явах — бедствах.

"... Трэці анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла, нібы свяцільня, і ўпала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя гэтай зоркі — палын; і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што сталі яны горкія".

Мы не будзем займацца тут высвятленнем таго, якія рэальныя ці магчымыя катаклізмы адпавядаюць прароцтвам "Апакаліпсіса". Па-першае, гэта справа геафізікаў, па-другое, сімволіку Іаана Багаслова, на наш погляд, няма сэнсу канкрэтызаваць і суадносіць амаль што ў дэталях з той ці іншай прыроднай ці штучнай з'явай — ад падзення камет-"зорак" і наступстваў землетрасення да атамнага выбуху (сёй-той з аўтараў схільны абвінавачваць у чарнобыльскай трагедыі камету Галея, якая ў 1986 годзе падышла да Зямлі). Сімволіка на тое і сімволіка, каб не займацца зусім непатрэбнай і залішняй яе канкрэтызацыяй.

(Заканчэнне на 8-й стар.).





Элітарны, экзатычны, загадкавы і яшчэ не адзін эпітэт можна ўжываць, расказваючы аб Муніцыпальным тэатры драмы Мінска "Дзе — Я".

У аснове дзейнасці акцёрскага калектыву, якім кіруе рэжысёр Мікалай Трухан, — вяртанне беларускаму тэатру нацыянальнага каларыту, багатай духоўнасці народа. Спектаклі тэатра ўжо добра ведаюць у Расіі, Латвіі, Літве, на Украіне, а таксама ў Канадзе і Румыніі. Удзельнічаючы ў многіх міжнародных фестывалях, за пяць гадоў свайго існавання "Дзе—Я" заваёўваў многія прызы. Паказаўшы нядаўна дзве прэм'еры, калектыў працуе над новымі спектаклямі па п'есе У. Караткевіча "Маці ўрагана", па вершах Я. Купалы, М. Багдановіча, Н. Гілевіча, па беларускаму фальклору.

НА ЗДЫМКАХ: чарговую рэпетыцыю праводзіць мастацкі кіраўнік тэатра Мікалай ТРУХАН; сцэна з новага спектакля для дзяцей "Самая прыгожая ў краіне".

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# "ДЗІЎНЫМ ХАРАСТВОМ ГАРЭЛА ЯГО ДУША..."

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Жыў дзеля вялікага ідэалу вызвалення свайго народу ад духоўнага, палітычнага і эканамічнага рабства. Але ў кожным выяўленні яго працы перш за ўсё відаць было гарачае ўмілаванне да чалавека. І чалавека хацеў ён вызваліць у беларусе".

У кароткім біяграфічным нарысе пра Канчэўскага аўтар некралога прыводзіць малавядомыя эпізоды з яго жыцця: "Папаўшы на Румынскі фронт як афіцэр, Ён зразу ж пачаў працаваць над асведчаннем жаўнераў у 44 украінскім палку, стоячы на грунце праграмы сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Тут прыждаў і рэвалюцыю. Але чыста партыйныя справы не задаволілі Канчэўскага: сам чалавек жывы, кіпучая натура, міжволі захапіўся ідэяй вызвалення тых "мужыцкіх" народаў, што хавалі ў сабе велізарныя ўкрытыя скарбы духовае творчасці. Ён горача спагадае ўкраінцам і памагае ім тварыць нацыянальнае войска, у якім жаўнеры Яго абіраюць за афіцэра". Пасля ўходу з войска і вучобы на кааператыўных курсах пры універсітэце Шаняўскага Канчэўскі канчаткова далучыўся да беларускага руху, бо нацыянальная ідэя ўсё ярчэйшым полымем разгаралася ў ягонай душы. "Усё жыццё Канчэўскага, — пісаў А.Луцкевіч у заключэнне некралога, — поўнае ахвярнасці дзеля вялікага ідэалу, яго гарэнне ў безупыннай працы на карысць свайго народу мела ў сабе гэтулькі духоўнага хараства, што нават смерць не можа зацямніць яснoты Яго вобразу. І ясней, святлей будзе памяць Ігната Канчэўскага сярод беларусаў".

Антон Навіна (А.Луцкевіч) адзначыў як з'яву беларускай грамадскай думкі і літаратурнай крытыкі эсэ Ігната Абдзіраловіча "Адвечным шляхам".

Артыкул І.К. (Канчэўскага) "Каапeрацыя ў 1922 годзе" — гэта ўжо не простая інфармацыя і крытыка антыбеларускай пазіцыі польскай адміністрацыі, а цэлая філасофская канцэпцыя, рамантычная і ў нечым парадаксальная беларуская сацыяльна-эканамічная ідэя. Сутнасць беларускай сацыяльна-эканамічнай ідэі Канчэўскага заключаецца ў тым, каб абысці Скілу дзікага капіталізму і Харыбду тыранічнага сацыялізму, выбраць трэці, сялянска-рамесніцкі шлях вольных брацтваў і кааперацый. А для гэтага ў іх вытокаў "мусіць застацца толькі чыстае, крэпкае, шчырае, павінны працаваць людзі, здольныя да ахвяры, якія вераць, што каапeрацыя — не выпадковае з'явішча, а тым болей — не спосаб набіць кішэню, а частка лепшай будучыні, якая заменіць месца сучаснай капіталістычнай цямніцы".

У цыкле артыкулаў "На кааператыўныя тэмы" І.Канчэўскі выкрыў палітыку тагачаснага польскага ўрада, які не пажадаў нават фармальна абвясціць роўныя асабістыя і грамадскія правы ўсіх народаў краіны. Таму выразна нацыянальная, беларуская кааперацыя не ўзнікла: улады не толькі не рэгістравалі статутаў на беларускай мове, але тэндэнцыйна шукалі ў польскіх кааператывах "дух беларускай самадзейнасці", сувязі з "бальшавікамі" і да т.п. Вось так і віленскі Саюз кааператараў, дзе працаваў Канчэўскі, улады абвясцілі "бальшавіцкім гняздом".

Зварот І.Канчэўкага да беларускай грамадскасці "Закладвайма народныя выдавецтвы!", падпісаны, што бывала рэдка, яго сапраўдным імем, і сёння застаецца для нас актуальным. Нестабільнасць беларускага друку сёння, як і даўней, тлумачыцца адсутнасцю "моцнай матэрыяльнай падставы". Гістарычныя абставіны скláліся так, што, на думку публіцыста, "мы не маем сваёй уласнай буржуазіі". Няма ў нас нацыянальна свядомых багатых людзей, якія б маглі заснаваць трывалыя кнігавыдавецкія прадпрыемствы. І.Канчэўскі прапанаваў стварыць выдавецкія кааператывы, якія ахапілі б усіх чытачоў нацыянальных кніг, газет, часопісаў. "Грамадой ідзіце запісвацца ў гэты кааператыў, каб супольнымі сіламі замацаваць фундаменты нашай адроджанай культуры", — заклікаў наш прарок Адраджэння.

У газеце "Наша будучыня" І.Канчэўскі надрукаваў рэцэнзію на зборнік вершаў Л.Родзевіча "Беларусь" (Вільня, 1922), і неяк адразу выявіўся ягоны талент крытыка, здольнага на глыбокі эстэтычны аналіз паэзіі. У першых, зусім недасканалых творах маладога паэта, ён убачыў "здольнасць адбіць рытм сучаснасці", прадбачыць будучыню, выявіць" сінтэз беларускага быту. Аўтар рэцэнзіі быў прыхільнікам "аб'ектыўнай" лірыкі, яскрава выяўленай у Багдановічавым цыкле "У зачарованым царстве". На яго думку, найбольшай выразістасці, шчырасці пачуцця Родзевіч дасягае ў тых вершах, у якіх ён "... глядзіць на рэчы не праз прызму сваёй асобы, а нібы непасрэдна разліваецца ў іх. На жаль, такі "эгацэнтрычны" спосаб гледжання на свет, калі асоба аўтара застаецца ў цэнтры творчасці, застаўся як шкодная традыцыя беларускай лірыкі, і ўсе вершы, лірычны змест якіх пераломлены праз аўтарскае "я", напрыклад, "У гразь утоптаны ляжым", "Няўжо я шчасця...", значна слабейшыя (за тыя), дзе аўтар без астатку зліваецца з выклікanымі да жыцця абразамі, як "Ідзе ў цьме", "Разсвяткуйся, неба". У вершах апошняга характару аўтар з найбольшай сілай выяўляе змест Беларусі".

Верш самога Ігната Канчэўскага — лебядзіная песня, малітва да Неба і Зямлі перад вечнай ростанню з гэтым светам — найпрыгажэйшым творам Боскім. Падпісваў ён свае арыгінальныя паэтычныя творы і пераклады крыху дзіўным і пакуль што неразгаданым псеўданімам Ганна Галубянка. Спачатку ён пераклаў калядны верш польскага паэта З.Вайнароўскага "Gloria. Слава ў вышніх", надзвычай сугучны лёсу Беларусі і беларускай ідэі. Верш пра адраджэнне і дараванне спакою ўсім спрацаваным і засмучаным. Праслаўленне ўсякім жывым стварэннем свайго Стваральніка. Пакуль што нешматлікія знойдзеныя вершы Канчэўскага ("Вераснёвае панно", "Так прыгожы старажытныя званіцы..." "На матывы Р.Тагора", верш у прозе "Мы разам...") незнаёмыя чытачу. Яны — запавет Маладой Беларусі паэта, які памірaў на дваццаць сёмай вясне свайго жыцця, моцна верачы ў несмяротнасць духу чалавечага і народнага.

Паводле сваёй паэтыкі і мастацкага светаўспрымання І.Канчэўскі не быў "традыцыяналістам", ягоныя вершы ў свой час маглі б лічыцца імпрэсіянісцкімі, амаль "мадэрнісцкімі", каб не іхняя элегічная, развітальная танальнасць. Ва ўсякім выпадку яны бліжэй да сённяшняй медытацыйнай, чым да тагачаснай песеннай і "заклікальнай" лірыкі.

"Даследзіны беларускага светапогляду" (1921) І.Канчэўскага цікавыя найперш тым, што аўтару ўдалося зрабіць маральна-філасофскае падагульненне "адвечнага шляху" беларусаў да праўды, той "мужыцкай праўды", якую падслухалі ў народзе іх паэты-прарокі і таленавіта ўвасобілі ў нацыянальнай літаратуры. У яго філасофскім эсэ "прачытваюцца" сацыяльна-этычныя ідэалы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, нашаніўскіх публіцыстаў, урэшце, тых, хто змагаўся ў часы рэвалюцыі і грамадзянскай вайны за духоўнае і палітычнае самавызначэнне беларускага народа.

Але той факт, што нарыс Канчэўскага ёсць філасофскае абагульненне гістарычнага вопыту нацыянальнай літаратуры, яшчэ далёка не ўсё тлумачыць. Тут адчуваецца асабістая выпакутаванасць думкі і някідкая ўнутраная экспрэсія слова, згарманізаваная і вонкава "прыцішаная" чалавекам прыроджанай інтэлігентнасці, далікатнай і спагадлівай душы. Сёння мы ведаем, што "Даследзіны..." пісаліся за два гады да заўчаснай смерці, якую ён прадчуваў і выказаўся, зазірнуўшы ў бездань вечнасці. На мяжы быцця і смерці пісьменнік не хацеў ды й не мог нічога пакідаць на "пасля", звяртаўся да нас гранічна шчыра, быццам на споведзі перад Радзімай і ўсім светам. Праніклівы чытач пачуе тут трагічную ноту развітання з жыццём, але не засмуціцца безнадзейнасцю, не адчуе надрыву. Наадварот, парадуецца светлай танальнасці пісьма і таму гістарычнаму аптымізму, якім вызначалася беларуская літаратура нават у сваіх самых трагічных тэмах.

Для І.Канчэўскага палітыка — другасная з'ява адносна маралі, яна становіцца сацыяльнай каштоўнасцю толькі пры ўмове яе маральнага апраўдання. Ён перакананы, што антычная грэка-рымская цывілізацыя загінула "з прычыны духоўнай распусты, дэмаралізацыі". Не магутная дзяржава выратуе Беларусь, а культурнае адраджэнне, духоўная, гаспадарчая і сацыяльна-палітычная творчасць. Паўстанне супраць існуючых формаў палітычнага быцця — не лепшы шлях для народа, бо яно непазбежна вядзе да разбурэння творчых сіл нацыі. Аднак ва ўмовах, калі народ надоўга пазбаўлены свабоды творчасці, магчымасці развіваць нацыянальную культуру, ён воляю гістарычнага лёсу "асуджаны" або на рэвалюцыю, або на духоўную дэградацыю. Няма альтэрнатывы для народаў, загнаных у закутак гісторыі.

Ігнат Канчэўскі быў адным з апошніх пракаў нацыянальнага адраджэння беларусаў, украінцаў і прыбалтыйскіх народаў — якраз напярэдадні іх палітычнага самавызначэння. На яго думку, за сваю тысячагадовую гісторыю беларусы і блізкія ім этнасы не змаглі канчаткова далучыцца ні да "заходняга", ні да "ўсходняга" тыпу культуры. У гэтай раздвоенасці — трагедыя народа. Але ў ёй таксама крыніца яго сілы — свабода выбару і гістарычны шанц пазбегнуць "усходняга" і "заходняга" месіянства, арыентаванага ў першым выпадку на абагаўленне соцыуму (грамадства і дзяржавы), а на супрацьлеглым баку — на абсалютызацыю асабовага пачатку, чалавечай асабістай карысці.

Прапаную чытачам верш у прозе І.Канчэўскага "Мы разам..." — духоўны запавет беларусам, надрукаваны пасмяротна ў зборніку грамадскай думкі, навукі, літаратуры і мастацтва "Заходняя Беларусь" (Вільня, 1924).

## МЫ РАЗАМ...

**(з пасьмертнае спадчыны)**

**— Ня відаць вас, брацьця, у крывавым тумане на дымным шляху гаманлівай штодзеннасьці. Але ўсе мы разам, мы разам, бо нас злучае супольнасьць адна.**

**— Калі ты ідзеш сьмела ў крывавую бойку, поўную цемры і плачу, забойства і злосьці, хаваючы ў сэрцы сваім цяжар замірэньня і радасьць каханьня, — то нас злучае ў цяжкую хвіліну супольнасьць ахвяры...**

**— Калі ты ідзеш на патаптаньне людзкіх законаў, каб з цяжкіх кайданаў вызваліць дух чалавецтва, што там у вастрогах і на эшафотах, — ты з намі, брат наш, бо нас злучае супольнасьць ахвяры...**

**— Калі твая сьмелая думка змагаецца з тым, што прыняла мірная пасрэднасьць, калі ты шукаеш новых шляхоў да сонца і новай гармоніі формаў праменных, — не палохайся лёсу тых, каго даўней спалілі на вогнішчах: таксама ты з намі, брат наш, бо нас злучае супольнасьць ахвяры...**

**— Калі ты стаіш прад сьвятым аўтаром у пустой сьвятыні і ўзносіш хвалу Невядомаму, каго адчувае душа твая ў сьветлым імкненьні і пэўнасьці яснай, — мы разам, мы разам, бо нас злучае супольнасьць ахвяры...**

**Уладзімір КОНАН.**

ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

**20 лютага, субота**

# ЛАГІШЫН

**Некалі тут ніхто не жыў. Лясы неабсяжныя былі, рэкі паўнаводныя разліваліся, мноства звяроў самых розных, рыбы, дзічыны. Некрануты куток прыроды. Людзі не сяліліся толькі таму, што цяжка было сюды дабрацца. Хіба зімою, калі ўсё навокал замятала снегам і замярзала. Праўда, пад снегам хаваліся шматлікія "чортавы вокны", якія ніколі не замярзалі і былі непераадольнымі пасткамі для людзей. Колькі іх загінула ў балотах, нават цяжка сказаць, бо калі трапляў хто ў вір ці ў багну, то яго і выцягваць баяліся, гаварылі, што лёс у чалавека такі, Багі гэтак вырашылі...**

**Аднаго разу купец ехаў са сваім сынам і людзьмі санным шляхам да Пінска. Везлі прадаваць прыгожыя тавары, купленыя ў заморскіх краінах. Звалі купца таго Логіш. Мужны і практычны гэта быў чалавек і сына свайго таксама бясстрашным і адчайным гадаваў. Заначавалі яны ў лесе, бо далёка яшчэ было да горада. Ноччу Логішу сон прысніўся. Бачыў ён велічную жанчыну перад сабою, якая папярэджвала яго, каб назаўтра не ехаў праз балота, пачакаў, пакуль мароз возьмецца. Але не паверыў дрэннаму прадвяшчанню купец. Выехаў ён са сваімі людзьмі на самае небяспечнае месца, і тут нібы пад руку, завылі ваўкі. Спалохаліся коні, пачалі кідацца, ды спрактыкаваныя таварышы былі ў Логіша, утрымалі іх. А вось сынавы сані панёс конь. Малады купец мог саскочыць, ды вельмі ж тавару шкадаваў. Спадзяваўся, што спыніць сані. Але ўляцеў конь у "чортава акно" і нават заржаць не паспеў, пайшоў на дно. Разам з ім і Логішаў сын патануў. Вярнуўся купец са сваімі людзьмі назад, на высокі бераг, і заклаў там паселішча.**




**Сталі жыць, чакаць вясны, каб зямлю засяваць. Калі яна надышла і навокал вада заплёскалася, паслаў Логіш даверанага чалавека прадаць што-небудзь у Пінску на базары, купіць самае неабходнае для гаспадаркі. Паплыў той у чоўне...**

**— Хто ты? Адкуль? — спыталіся ў яго людзі, калі ён расклаў свой тавар. Спачатку разгубіўся Логішаў пасланец, а потым мовіў:**

**— Логішынец... З Логішынава берага...**

**Вось адтуль і пайшлі лагішынцы і Лагішын.**

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**



**Персідская кошка Эльвіра са сваёй гаспадыняй Наталляй БАРАНОЎСКАЙ на міжнароднай выстаўцы, якая нядаўна прайшла ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## УРАЧЫСТЫЯ ПРОВАДЫ

У Парыжы ў прысутнасці больш пяці тысяч гледачоў і ганаровага госця спаборніцтваў прэзідэнта МАК Хуана Антоніо Самаранча адбыліся ўрачыстыя провады пяціразовага чэмпіёна свету мінчаніна Аляксандра Раманькова, які, адзначыўшы сваё 40-годдзе, вырашыў пакінуць вялікі спорт.

Чаму ж провады вядомага ўсяму свету беларускага фехтавальшчыка адбыліся за мяжой, а не на Радзіме? Гэтае пытанне было зададзена намесніку старшыні Дзяржкамспорту Беларусі Віктару Пуцькову. Вось што ён адказаў:

– Провады выдатнага рапірыста – ініцыятыва Міжнароднай федэрацыі фехтавання. Аляксандр мае дагавор з Дзяржкамспортам РБ, па ўмовах якога абавязуецца аказваць дапамогу зборнай рэспублікі. Магчыма ў асабістых спаборніцтвах на міжнародным узроўні Раманькоў выступаць і не будзе. Але аб намеры не выступаць за зборную сваёй дзяржавы заяў ад спартсмена не было. Калі яна будзе пададзена пасля прыезду з Францыі, то, натуральна, і мы наладзім яму провады з пашанай.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**Вячка Целеш нарадзіўся на Гродзеншчыне, а жыве ў Рызе. У ягонай творчасці спалучыліся традыцыі беларускага і латышскага жывапісу. Карціны Вячкі Целеша вабяць матэрыяльнасцю выяў і танальнай разнастайнасцю. Пейзаж, нацюрморт, партрэт — любімыя жанры мастака. Неаднойчы ён звяртаўся да вобразаў славутых асоб з мінуўшчыны Беларусі: Францішка Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, паэтаў Максіма Багдановіча і Янкі Купалы.**

**Асобная старонка творчасці мастака — графіка і, у прыватнасці, экслібрыс. Графічныя цыклы "Касмічны шлях" і "У ценю часу трыумфаў" дэманструюць вытанчаную тэхніку і складаную рытміку чорна-белых плямаў і ліній.**

**Работы Вячкі Целеша экспанаваліся не толькі на рэспубліканскіх выставах Латвіі і Беларусі, ён удзельнік вернісажаў у Эстоніі, Літве, Фінляндыі, Швецыі, Даніі, ЗША і Канадзе.**

**У Рызе мастак выкладае ў Беларускай дзіцячай студыі "Вясёлка" і да таго ж з"яўляецца старшынёй аб"яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".**

**НА ЗДЫМКАХ: работы В. ЦЕЛЕША: "Мой мацярык — Віцебшчына" (паэт С. Панізнік) і "У купальскую ноч".**

## ІМЯ ГЭТАЙ ЗОРКІ — ПАЛЫН

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Звернемся лепш да несумненных паралеляў паміж пэўнай часткай "Апакаліпсіса" і чарнобыльскай легендай, пераказанай бабуляй Соф'яй. І перш за ўсё, зададзімся наступным пытаннем: што з пункту гледжання лінгвістыкі азначае паняцце "зорка-палын"? На нашу думку, слова **палын** тут разумеюць занадта літаральна – як агульнае абазначэнне травы, класа раслін, якія вядомы пад лацінскім найменнем "артэмісія". Але пры такім разуменні ўзнікае відавочная недарэчнасць: зорка не можа быць палыном-травой. Праўда, можна думаць, што, маўляў, "зорка-палын" – гэта алегарычнае абазначэнне, якое ўзнікла на той падставе, што пасля падзення гэтай зоркі воды сталі горкія, як палын. Тым не менш, мы прапануем іншае тлумачэнне.

– "Зорка-палын" – гэта літаральна "палаючая зорка", паколькі слова **палын** суадносіцца з дзеясловам **палаць** у значэнні "гарэць", **паліць** - "спальваць". Пры такім тлумачэнні "зорку-палын" сапраўды ёсць сэнс суадносіць з каметай. "Палаючая зорка" ўпала "на крыніцы вод", і воды таксама зрабіліся палыном, гэта значыць былі ахоплены агнём (пры рэзкіх устрэсваннях вод на паверхню ўсплываюць гаручыя газы – метан і серавадарод, якія пры сутыкненні з "палаючай зоркай" імгненна ўспыхваюць, і ўзнікае велізарны вогненны смерч). Што ж датычыць "горкай вады", то пры гарэнні серавадароду ўтвараецца двухвокіс серы, які пры злучэнні з вадой у сваю чаргу ўтварае серную кіслату. Воды, атручаныя сернай кіслатой, становяцца горкімі, як палын.

У якой жа сувязі з усім гэтым знаходзіцца трава палын –"артэмісія"? Сувязь тут не столькі прамая, колькі апасродкаваная, нават міфалагізаваная. Трава палын – "артэмісія" адрозніваецца горкім смакам. Сама назва **палын** (заўважым, найменне менавіта расліны) мае сувязь з характэрным для расліны колерам (палын мае густое белаватае ці шэраватае апушэнне; параўнайце, напрыклад, слова **палавы** – "светлажоўты", "бляклы", "шэры", "бледны"). Але ж горкі смак (жывёла, дарэчы, не бярэ палын) і супадзенне наймення расліны па сугуччы з выразамі "зорка-палын" і "горкая вада – палын" з дастаткова распаўсюджанага і вядомага сюжэта Новага Запавету аб Канцы Свету, які мае вельмі даўнія вытокі, абумовілі ў сукупнасці пэўную "міфалагізацыю" самой расліны "артэмісіі". Палын-трава стала ўспрымацца як сімвал горкай расплаты, якая чакае людзей-грэшнікаў, адступнікаў ад устанаўленняў Бога.

Дарэчы, найменне травы **чарнобыль, чарнабыльнік** (палын звычайны, ці "артэмісія вульгарыс") утварылася ў выніку спалучэння двух асноў: **чорн** - ("чорны") і **быль** ("трава"; параўнайце рускацаркоўнаславянскае слова **быль** – "трава" і выраз **быллём параслo**). Такім чынам, **чарнобыль** – гэта "чорная, цёмная трава" (сцябло ў "артэмісіі вульгарыс" мае буравата-фіялетавае адценне).

А што ж назва сумна вядомага горада Чарнобыля? Аб чым расказвае яна? Горад Чарнобыль у Кіеўскай зямлі на рацэ Прыпяць упершыню згадваецца ў Іпац'еўскім летапісе пад 1193 годам. Польскі даследчык С. Роспанд лічыць, што назва горада ўтварылася ад асабовага імя "**Чарнабыл**", з якім ён параўноўвае (у структурным плане) чэшскія асабовыя імёны **Радабыл** і **Драгабыл**.

Мы згодны з іншай версіяй, па якой у назве **Чарнобыль** якраз і адлюстравалася ўсходнеславянскае народнае абазначэнне палыну звычайнага – чарнабыльніку. Усё ж ёсць штосьці вышэйшае, ад Бога, і ў гэтай назве, і ў легендзе, якая захавалася на Кармяншчыне. Прынамсі, ніякая самая лагічная сістэма доказаў не можа растлумачыць, чаму так фатальна-сімвалічна супалі частка прароцтва Іаана Багаслова і атамная катастрофа, з аднаго боку, назва месца трагедыі і звязаны з ёю (назвай) матыў-перасцярога старажытнай легенды, з іншага боку. Не, зусім не казку расказала нам бабуля Соф'я Мікітаўна Давыдзенка, а самую сапраўдную быль.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ

Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 184.
Падпісана на друку 8.02.1993.